

# Беларус

Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!
Францішак Багушэвіч (1840-1900)

№ 366 Студзень 1990
Год выд. XXXIX

BIELARUS / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.00


## «ГАЛАСУЮ ЗА БЕЛАРУСЬ!»

**Выбарчая плятформа Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне» да выбараў 1990 году.**

Шмат працы і крыві страціў наш народ, каб адстаяць сваю незалежнасьць і пабудаваць жыцьцё, вартае свабоднага чалавека. Але сёньня, праз 72 гады непадзельнай улады намэнклятурнай партбюракратыі мы фактычна стаім перад зглумленым храмам: наша зямля забруджана радыёнуклідамі ды нітратамі, паветра атручана выкідамі прамысловых прадпрыемстваў, а вада — сьцёпкамі з хворых палёў і жывёлагадоўчых фэрмаў. Ніякія намаганьні не даюць плёну. Наша сыстэма прамысловасьці ня можа наладзіць выпуску тавараў, якія знаходзіліся-б на ўзроўні міжнародных патрабаваньняў, і штоб ні радзіла нашая зямля, на прылаўках магазынаў бракуе дастатковай колькасьці прадуктаў.

Мы не здабылі ня толькі дабрабыту, мы не здабылі і незалежнасьці. Сёньня мы павінны прасіць у Масквы тое, што належыць нам па праву. Чарнобыльская катастрофа бязьлітасна высьветліла наш сапраўдны стан у Саюзе — стан паўкалёніі, якая пастаўляе цэнтру сельскагаспадарчыя прадукты, тавары прамысловасьці, а самі мы павінны пакорліва чакаць, пакуль гэты цэнтар згодзіцца выдзяляць нам дапамогу ў Чарнобыльскім горы.

Далей трываць нельга. Мы не перажывём яшчэ пяць гадоў такога парадку і такога кіраўніцтва. Пасьля Чарнобыля духоўнага, што разбурыў нашу культуру ў часы сталіншчыны, пасьля Чарнобыля радыяцыйнага, які паставіў кропку ў гісторыі «разьвітага сацыялізму», над нашым народам навісла пагроза страшэннай катастрофы — развалу народнай гаспадаркі, выбуху злачынстваў, голаду і пакутаў.

Беларускі Народны Фронт ідзе да выбараў зь ідэямі палітычнага і эканамічнага плюралізму, культурнага адраджэньня, зь ідэямі дэмакратыі, свабоды і сувэрэнітэту Беларусі. Мы заклікаем усіх жыхароў Рэспублікі галасаваць за сумленных, кампэтэнтных, адказных і дэмакратычна настроеных людзей і адмовіць у сваёй падтрымцы прадстаўнікам намэнклятуры, іхным стаўленікам і паслугачом, якія страцілі ня толькі права на ўладу, але й на просты чалавечы давер.

Лёс грамадзтва павінен вызначацца самым народам. Ад яго выбару залежыць будучыня Беларусі.

Выбарчая плятформа БНФ «Адраджэньне» грунтуецца на прынцыпах: зямля і заводы — тым, хто на іх працуе; улада Саветам — тым, хто адстойвае інтарэсы народу, аддае яму свае веды і працу.

1. Нельга далей мірыцца з тым, што партыйная і ведамасная бюракратыя валодае манаполіяй на ўладу і ідэялёгію, паразітуе на працы грамадзтва і эксплюатуе яго.

Ніводная з праблемаў сёньняшняга дня ня можа быць станоўча вырашаная, пакуль народ ня стане поўным гаспадаром над сродкамі вытворчасьці, над сваёй працай і яе плёнам, пакуль ня будзе сам кіравацца сваёй воляю, розумам і сумленьнем. **БНФ адстойвае ідэі незалежнасьці, рэальнага сувэрэнітэту Беларусі**, бачыць у гэтым найважнейшую палітычную мэту, што стаіць перад грамадзтвам. Важнейшай задачай БНФ зьяўляецца падрыхтоўка ўмоваў для свабоднага выбару народам сваёй самастойнай палітычнай і сацыяльнай пэрспэктывы.

Дзеля гэтага трэба юрыдычна сьцьвердзіць **вяршэнства законаў Беларусі на яе тэрыторыі** над саюзнымі законамі і адпаведнасьць іх падпісаным Рэспублікай міжнародным пактам.

Неабходна юрыдычна замацаваць уласнасьць беларускага народу на сваю зямлю і на ўсе прыродныя рэсурсы Рэспублікі.

БНФ выступае **за поўную гаспадарча-эканамічную самастойнасьць Беларусі**, за перадачу ёй усіх вытворчых фондаў на яе тэрыторыі, за стварэньне свабоднага рынку, за інтэграцыю Рэспублікі ў эўрапейскую і сусьветную эканамічную структуру.

2. Неабходна прыняць **закон пра уласнасьць** і прызнаць існаваньне раўнапраўнасьці розных формаў уласнасьці — калектыўнай, дзяржаўнай, прыватнай, каапэратыўнай і іншых.

Паводле гэтага закону, асноўныя фонды прадпрыемстваў па жаданьні працоўных могуць пераходзіць ва ўласнасьць калектываў ці асобных людзей.

3. Прыняць **закон пра зямлю**, паводле якога сяляне павінны мець права пераўтвараць калгасы і саўгасы ў каапэратыўныя гаспадаркі; выходзіць з калгасаў і саўгасаў зь зямлёй, якая передаецца ім мясцовымі органамі ўлады ў прыватную уласнасьць без усялякага выкупу; ствараць індывідуальныя ці каапэратыўныя фэрмы; выдзяляцца ў хутары; набываць сродкі вытворчасьці на роўных умовах зь іншымі землекарыстальнікамі.

Дзяржава рэгулюе зямельныя адносіны эканамічнымі мэтадамі.

4. На Беларусі груба парушаецца сацыяльная справядлівасьць. Існуе цэлая сыстэма сацыяльных прывілеяў для партыйна-бюракратычных функцыянераў і іхніх сем'яў. Акрамя таго, з кастрычніка 1989 году на 65-100% падвышана зарплата ўсім намэнклятурным чыноўнікам, у той час, калі сотні тысячаў людзей у Беларусі жывуць па-за рысай беднасьці.

БНФ выступае **за скасаваньне сыс-**

*(Працяг на 2-й б.)*

Зьніч

***НАШЧАДКАМ СКАРЫНЫ, КАЛІНОЎСКАГА, КАРАТКЕВІЧА***

*Кахальных і кар'ерных мрояў*
*нядоўга цешыў нас падман.*
*Мільгнула добрае й ліхое,*
*як сон, як золкавы туман.*

*Ня згас адзін матыў змаганьня*
*спакусе ўлады векавой:*
*яшчэ ня згвалчаная душой*
*Айчыны чуем спадзяваньне.*

*І не чакаем мы адхланьня*
*ў нядолі наскае зямной:*
*мы сьнім нязманьлівы спакой —*
*матыў нябёснага*
*каханьня...*

*Пакуль свабодаю гарым,*
*пакуль для годнасьці жывыя, —*
*Ваюйце Мовою, сябры,*
*Айчыны любай вартавыя!*

*Царкву Крывіцкую з руін*
*уздымем — зь Белым і Чырвоным!*
*І зьгіне рабскі дух, як дым,*
*і ўсе забітыя імёны*
*Сьвятых — Айчыне аддадзім!*

(Зб. Зьніч. САНАТА РОСТАНІ. выд. «Бераг». Беласток. 1988)

## АДОЗВА

Дарагія Суродзічы!

Ад часу выбуху на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі мінула больш за тры з палавінаю гады. Радыяцыя атруціла пятую частку Беларусі, дзе цяпер неймаверна масавыя захворваньні й выпадкі сьмерці ад рака. Дзеці родзяцца калекамі. Але ўлада й дасюль хавае праўду ад народу.

У гэтым крытычным для нашага народу часе Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» зьвярнуўся да нас, за межамі, па дапамогу. У Беларусі людзям патрэбныя мэдыцынскія апараты і мэдыкамэнты для супрацьдзеяньня радыяцыі. Іх можна набыць тут на Захадзе ды перадаць тым, хто іх патрабуе. Але для ажыцьцяўленьня гэтага праекту патрэбныя значныя сумы грошай.

У лістападзе 1989 году Рада Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы заснавала Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Створаны адмысловы камітэт у складзе: Архіепіскап БАПЦ Мікалай — старшыня, сп. Васіль Русак — сакратар і сп. Аляксандар Сільвановіч — скарбнік. У акцыю збору грошай на Фонд дапамогі ўлучыліся Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў і Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. Мы заклікаем усе беларускія арганізацыі і ўстановы ў ЗША, Канадзе, Заходняй Эўропе, Аўстраліі ды Паўдзённай Амэрыцы далучыцца да супольнага збору сродкаў на дапамогу ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Мы зьвяртаемся таксама да ўсіх людзей добрае волі ў цэлым сьвеце з гарачай просьбай дапамагчы пацярпелым у Беларусі ад атамнае катастрофы.

Рада БАПЦ ужо асыгнавала пяць тысячаў даляраў на гэтую мэту. Просім усе беларускія парафіі ўнесьці свой пасільны ўклад на Фонд дапамогі ды правесьці збор грошай сярод сваіх парафіянаў і прыяцеляў. З асаблівай просьбай зьвяртаемся да нашых лекараў, якім глыбіня чарнобыльскае трагедыі найбольш зразумелая, узяць актыўны ўдзел у працы Фонду дапамогі праз збор ахвяраў і мэдычных параду.

Дзеля фармальных і практычных меркаваньняў просіцца высылаць ахвяры на ніжэй пададзеныя адрасы (на чэку, замест поўнага назову — Fund for Chernobyl Victims in Byelorussia — можна пісаць *Chernobyl Victims)*:

*у ЗША*
Consistory of B.A.O.C.
Fund for Chernobyl Victims in Byelorussia
9 River Road
Highland Park, N.J. 08904
U.S.A.

*у Канадзе*
Parish of St. Kiryla of Turau
Fund for Chernobyl Victims in Byelorussia
524 St. Clarens Avenue,
Toronto, Ontario M6H 3W7
CANADA

5 сьнежня 1989 г.
Таронта, Канада.

**Ваш у Хрысьце**
**Архіепіскап Мікалай,**
**Першаіерарх БАПЦ,**
**Старшыня Фонду**
**Дапамогі Ахвярам**
**Чарнобыля ў Беларусі.**

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 20 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 20 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# «ГАЛАСУЮ ЗА БЕЛАРУСЬ!»

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

**тэмаў партыйна-бюракратычнай намэнклятуры**, за перадачу ўсіх яе мэдыцынскіх, санаторна-курортных, бытавых спэцустановаў дзецям і пацярпелым ад Чарнобыльскай катастрофы.

БНФ патрабуе **рассакрэціць структуру бюджэту** ўсіх грамадзкапалітычных арганізацыяў, у тым ліку КПСС, расшыфраваць крыніцы ўтварэньня іхніх даходаў і выдаткаў.

5. На Беларусі нехапае элемэнтарных тавараў першай неабходнасьці, мэдыкамэнтаў. Становішча не паляпшаецца, нягледзячы на рупную працу нашых людзей. На пэрыяд канкрэтных палітычных і эканамічных рэформаў неабходна даць сацыяльныя гарантыі для найменш забясьпечаных слаёў насельніцтва.

Неабходна:

— забясьпечыць па-этапна права маці мець **трохгадовы аплочаны адпачынак для догляду дзіцяці**;

— стварыць **сыстэму прафіляктыкі і рэгабілітацыі насельніцтва Рэспублікі ад узьдзеяньня радыяцыі**;

— забясьпечыць **мінімальны пражыцьцёвы ўзровень** малааплочваным катэгорыям насельніцтва, пэнсіянерам, інвалідам і іншым. Мінімальная заработная плата павінна перавышаць мінімальны пражыцьцёвы ўзровень;

— стварыць дзяржаўную **сыстэму перападрыхтоўкі спэцыялістаў**, што вызваляцца ў выніку пераўтварэньня структуры і характару гаспадаркі.

6. Чарнобыльская катастрофа — трагедыя беларускага народу. Выратаваньне насельніцтва Рэспублікі ад радыяцыі зьяўляецца **агульнанацыянальнай задачай**.

БНФ выступае **за неадкладнае адсяленьне жыхароў забруджаных раёнаў** і прыняцьце закону пра сацыяльныя правы людзей, пацярпелых ад Чарнобыльскай катастрофы.

БНФ адмаўляе ненавуковую антычалавечую канцэпцыю «35 бэраў за жыцьцё» і падтрымлівае канцэпцыю беларускіх вучоных, згодна зь якой людзям нельга жыць там, дзе немагчыма атрымаць чыстую сельскагаспадарчую і іншую прадукцыю. У сувязі з гэтым БНФ патрабуе перагляду ўсіх прынятых пастановаў і самога падыходу да пераадоленьня вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Чыноўнікі партыйнага апарату, кіраўніцтва БССР і СССР усе тры гады ўтойвалі ад насельніцтва Беларусі і ўсяго сьвету вынікі Чарнобыльскай катастрофы і сапраўдныя памеры небясьпекі, чым нанесьлі непапраўную шкоду здароўю людзей. БНФ расцэньвае гэта як **злачынства супраць чалавецтва** і патрабуе прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці кіраўнічых асобаў, вінаватых у злачынным засакрэчваньні і сьвядомым скажэньні інфармацыі.

БНФ патрабуе ад уладаў СССР **бязумоўнай і тэрміновай кампэнсацыі** Беларусі, а таксама яе грамадзянам стратаў, зьвязаных зь пераадоленьнем вынікаў Чарнобыльскай катастрофы.

БНФ лічыць, што ўрад БССР павінен зьвярнуцца да ўрадаў краін усяго сьвету з просьбай аб дапамозе ў выратаваньні людзей ад Чарнобыльскай радыяцыі.

БНФ **за мараторый на будаўніцтва АЭС у Рэспубліцы, за абвяшчэньне Беларусі бязьядзернай зонай**.

7. За дзесяцігодзьдзі бескантрольнага гаспадараньня на Беларусі загадна-адміністрацыйнай сыстэмы катастрафічна пагоршыўся экалягічны стан асяродзьдзя, што пагражае здароўю і жыцьцю людзей. Псуецца беларуская прырода, раскрадаюцца багацьці яе нетраў, зьнішчаюцца краявіды.

Галоўнай умовай нармалізацыі экалягічных абставінаў у Рэспубліцы БНФ лічыць **пераарыентацыю народнай гаспадаркі** з энэрга- і рэсурсаёмістых на экалягічна чыстыя і навукаёмістыя вытворчасьці.

Неабходна ўвесьці аплату за карыстаньне прыроднымі рэсурсамі, заканадаўча зацьвердзіць міжнародна прызнаныя нарматывы чысьціні асяродзьдзя і прадуктаў, узмацніць адміністрацыйную і крымінальную адказнасьць за іх парушэньне.

Экалягічна небясьпечныя народнагаспадарчыя і вайсковыя аб'екты (заводы БВК, прадпрыемствы хімічнай прамысловасьці ў Магілеве, Наваполацку, Гародні, Мазыры і іншых гарадох, гіганцкія жывёлагадоўчыя комплексы і г.д.) забясьпечыць сучаснымі ачышчальнымі сыстэмамі, перапрафіляваць альбо ліквідаваць.

Неабходна **спыніць драпежніцкую мэліярацыю** і значную частку вытворчых магутнасьцяў Міністэрства мэліярацыі накіраваць на дарожнае будаўніцтва і іншыя мэты.

Усе праекты плянуемых вытворчасьцяў, уключаючы ваенныя аб'екты, падлягаюць пазаведамаснай навукова-экалягічнай экспэртызе.

Бяз згоды мясцовай улады і насельніцтва, якая пры неабходнасьці высьвятляецца шляхам рэфэрэндумаў, ніхто не павінен мець права будаваць прадпрыемствы.

8. БНФ лічыць, што галоўнай мэтай дэмакратызацыі грамадзтва зьяўляецца свабода і сувэрэннасьць асобы, забесьпячэньне правоў чалавека, **прыярытэт грамадзянскай супольнасьці над дзяржавай**. Толькі пры гэтых умовах можна дасягнуць гуманнай цывілізаванай дэмакратыі, свабоды і незалежнасьці Беларусі.

Ніякія карпаратыўныя, партыйныя і іншыя ідэялягічныя канцэпцыі не павінны выкарыстоўвацца для падаўленьня правоў і сувэрэннасьці асобы.

Павінна быць рэальна, бязумоўна і бесьперашкодна забясьпечана свабода перакананьняў і сумленьня, свабода слова, друку і інфармацыі, свабода перамяшчэньня, сходаў, мітынгаў і дэманстрацыяў, свабода выезду ў іншыя краіны і вяртаньня назад, свабода асацыяцыяў. БНФ **за адмену антыдэмакратычных законаў**, прынятых Вярхоўным Саветам БССР на працягу 1988-89 гадоў.

БНФ выступае **за гуманізацыю жыцьця** грамадзтва: **за скарачэньне тэрміну вайсковай службы**, узаконеньне права грамадзянаў Беларусі адбываць **вайсковы абавязак на тэрыторыі Рэспублікі**, альбо праходзіць **альтэрнатыўную службу** на будаўніцтве жыльля для чарнобыльскіх перасяленцаў на чыстых тэрыторыях.

БНФ за прыняцьце дэмакратычнай Канстытуцыі Рэспублікі.

9. Асновай сыстэмы таталітарызму ў БССР зьяўляецца манаполія КПСС на ўладу і дыктат аднапартыйнай сыстэмы кіраўніцтва. БНФ выступае **за скасаваньне 6-га артыкулу Канстытуцыі БССР аб кіраўнічай ролі КПСС, за свабоду ўтварэньня і дзейнасьці розных партыяў і незалежных прафсаюзаў**, за развіцьцё дэмакратычнай сацыяльнай інфраструктуры грамадзтва. БНФ за прыняцьце закону пра рэфэрэндум.

10. Людзі павінны **ведаць праўдзівую гісторыю грамадзтва**, у якім жывуць, і свабодна карыстацца культурнымі здабыткамі свайго народу, мець доступ да скарбаў сусьветнай культуры.

БНФ выступае за прыняцьце закону пра архівы, які абмяжуе тэрміны сакрэтнасьці для архіўных матар'ялаў у адпаведнасьці зь міжнароднай практыкай. Неабходна тэрмінова **рассакрэціць архівы КДБ і ЦК КПБ**, перадаць іхныя матар'ялы для агульнага карыстаньня.

11. Дзесяцігодзьдзі сталінскага генацыду, бюракратычнай дэнацыяналізацыі Беларусі, зьнішчэньня культурнай спадчыны, помнікаў гісторыі і культуры, гуманістычнай маралі, рэлігіі, нацыянальнай гісторыі, мовы прывялі наш народ да заняладу і культурна-нацыянальнай катастрофы. **Высакародная задача нацыі — выратаваць і адрадзіць родную мову**.

БНФ выступае за канстытуцыйнае ўсталяваньне дзяржаўнасьці беларускай мовы, спадзяецца на падтрымку ўсяго насельніцтва Рэспублікі, незалежна ад нацыянальнасьці, у гэтай маральнай і гуманістычнай справе, якая патрабуе немалога часу, стварэньня ўмоваў, добрай волі і стараньня людзей.

БНФ выступае супраць заканадаўчага замацаваньня за якой-небудзь мовай статусу міжнацыянальнай.

БНФ адстойвае **прынцып нацыянальна-культурнай аўтаноміі** для прадстаўнікоў усіх іншых нацыянальнасьцяў, што жывуць на Беларусі, незалежна ад іх колькасьці і часу пражываньня, падтрымлівае стварэньне нацыянальных школаў, друку, культурных асяродкаў, арганізацыяў, выступае за юрыдычнае забесьпячэньне гэтых правоў.

Будучыню Беларусі шмат у чым вызначае эфэктыўнасьць адукацыі. БНФ выступае за распрацоўку і ўкараненьне нацыянальнай сыстэмы адукацыі, за разнастайнасьць яе формаў, **за дэідэалягізацыю і дэмілітарызацыю адукацыі**, за аўтаномію вышэйшых навучальных установаў.

12. БНФ лічыць, што адным з найгалоўнейшых фактараў адраджэньня Бацькаўшчыны зьяўляецца **адраджэньне рэлігійнасьці**, а таксама духоўнасьці культуры.

БНФ адстойвае правы вернікаў усіх канфэсіяў нашага краю — хрысьціянаў, іудзэяў, магамэтанаў; выступае **за вызваленьне рэлігіі ад партыйна-дзяржаўнага дыктату**, за нагляду за вернікамі і сьвятарамі; за вяртаньне рэлігійным аб'яднаньням храмаў і адабранай маёмасьці; аднаўленьне былых і стварэньне новых рэлігійных структураў адпаведна патрэбам вернікаў і наданьне ім юрыдычных правоў грамадзкіх арганізацыяў.

БНФ лічыць, што выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі і ў мясцовыя Саветы стануць паваротнымі для лёсу нашай Бацькаўшчыны. Таму ўдзельнічае ў іх пад дэвізам — «ГАЛАСУЕМ ЗА БЕЛАРУСЬ!».

г. Менск. **Прынята Соймам БНФ 9 сьнення 1989 году.**

## *ШТО БЫЛО СКАЗАНА ПРА ЧАРНОБЫЛЬ У ААН?*

*У сувязі з рознагалосьсем наконт таго, што сказаў пра дапамогу ахвярам чарнобыльскае катастрофы ў Беларусі міністар замежных справаў БССР А. Гурыновіч на леташняй Генэральнай Асамблеі ААН, падаём выпіску з англамоўнага прэсавага камунікату Беларускае місіі пры ААН, у якім быў зьмешчаны поўны тэкст Гурыновічавага выступленьня на Генэральнай Асамблеі 10 кастрычніка 1989 году.*

«Для Беларускае ССР пытаньні аховы прыроднага навакольля маюць асаблівае значэньне ў сувязі з праграмай дэзактывацыі, якая праводзіцца пасьля аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Адразу-ж пасьля аварыі мы мусілі перасяліць 25 тысячаў людзей з забруджаных мясцовасьцяў у іншыя раёны рэспублікі, пабудаваць для іх 10 тысячаў кватэраў ды адпаведную інфраструктуру.

«Сёньня тэрыторыя, забруджаная ў рознай ступені радыёнуклідамі, займае больш за 18 працэнтаў ворнае зямлі. Кошты й страты, зьвязаныя з утрыманьнем зоны адчужэньня і зь перасяленьнем, перавысілі ўжо два з палавінаю міліярды рублёў. Мы плянуем далейшыя перасяленьні людзей з заражаных мясцовасьцяў. На пэрыяд 1990-1995 гадоў распрацоўваецца цяпер агульная праграма ліквідацыі вынікаў аварыі, што будзе каштаваць 16 міліярдаў рублёў і якая аблегчыць вынікі аварыі ды загарантуе бясьпечныя ўмовы жыцьця ў паражаных раёнах. Нашыя намаганьні дасягнуць гэтае мэты падтрымваюцца істотнай дапамогай, якую мы дастаём ад іншых братніх народаў Савецкага Саюзу.

«Шэраг грамадзкіх арганізацыяў Рэспублікі зьвярнуліся з заклікам аб дапамозе да нашых суайчыньнікаў і ўсіх людзей добрае волі за межамі (тэкст заклікy далучаны)».

***Вось гэта ўсё**, што сказаў міністар Гурыновіч у сваёй прамове на Генэральнай Асамблеі ААН. Заклік, пра які Гурыновіч згадвае, быў перадрукаваны ў газэце «Беларус» № 361 (жнівень).*

## МІЛІЦЫЯ АДБІРАЕ АСАБІСТЫЯ ДАЗЫМЭТРЫ

Людзі, якія нядаўна прыехалі ў ЗША зь Менску, а таксама з Магілева, кажуць, што міліцыя забірае ад прыватных грамадзянаў дазымэтры. Як выяўляецца, нельга мець у прыватным ужытку гэтую радыяцыйна-вымяральную прыладу. Апошнім часам шмат хто зь Беларусі піша да сваякоў і знаёмых на Захадзе з просьбай прысылаць ім дазымэтры. Прылады гэтыя набываюць таксама на Захадзе часовыя наведнікі зь Беларусі, дзе радыяцыя ад чарнобыльскае аварыі пашыраная куды больш, як гэта прызнаюць улады. Канфіскаваньне міліцыяй дазымэтраў праводзіцца, відаць, з мэтай, каб афіцыйным дадзеным пра радыяцыю як мага менш пярэчылі праўдзівыя дадзеныя.

# ФОНД АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСІ

**Заклік да Беларусаў у ЗША і Амэрыканцаў беларускага паходжаньня**

Зьвяртаемся да Вас у вельмі важнай і неадкладнай справе. Вы ведаеце, што дзеецца сёньня на Беларускіх землях: там паўсталі магчымасьці для Беларускага Адраджэньня — нацыянальнага, палітычнага й культурнага. Чакаць нельга. Наш абавязак неадкладна памагчы ўсімі сродкамі Беларускаму Адраджэньню.

Больш за сорак гадоў беларуская эміграцыя ня мела патрэбных кантактаў з нацыянальным актывам у Беларусі. Больш за сорак гадоў лучнасьць з Бацькаўшчынай насіла толькі адмоўны характар крытыкі аднаго боку другім. Цяпер шмат што мяняецца — *эміграцыя мае немалыя магчымасьці браць удзел у падзеях на Беларусі й можа ўплываць на фармаваньне будучыні беларускага краю. Ці мы выкарыстоўваем гэтую нагоду ў належнай меры?..*

У тым, што Бацькаўшчына патрабуе і чакае дапамогі ад Эміграцыі, няма ніякіх сумляваньняў — аб патрэбе гэткае дапамогі мы чуем цяпер пры шмат якіх асабістых сустрэчах з суродзічамі зь Беларусі, чытаем у лістох з таго боку. Гастролі танцавальнага ансамблю «Васілёк» па Беласточчыне і канцэрты Данчыка на Беларусі паказалі, якой урадлівай можа быць сёньня беларуская нацыянальная глеба і якое вялікае дапамогі яна патрабуе для росту маладых парасткаў.

Частковая просьбы аб дапамозе задавальняюцца дзякуючы ініцыятыве й ахвярнасьці паасобных нашых суродзічаў на эміграцыі. Але ў меру таго як нацыянальнае адраджэньне на Беларускіх землях набірае маштабу, настаў час справу арганізацыі дапамогі весьці скаардынавана і больш інтэнсыўна. Гэтая акалічнасьць і дала пачатак стварэньню Фонду Адраджэньня Беларусі (ФАБ), як установы, што зоймецца справаю збору і разьмеркаваньня матар'яльнае дапамогі Беларускаму Адраджэньню. Дапамога патрэбная перш-наперш для ўзмацненьня ўдзелу нацыянальных групаў і кандыдатаў у выбарах — кандыдатаў Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» ў БССР і Беларускага грамадзкага камітэту «Грамада» на Беласточчыне. У гэтых выбарах беларускім кандыдатам даводзіцца балатавацца супраць апанэнтаў, за якімі стаяць моцна арганізаваныя й добра фінансаваныя сілы.

Вялікае маральнае значэньне будзе мець таксама, хоць сабе і невялікая, матар'яльная дапамога беларускім культурным таварыствам у Вільні, Рызе, Таліне, Маскве. Працу па гэтых таварыствах, як нам добра ведама, вядуць самаахвярныя энтузіясты, якія ахвяроўваюць на грамадзкую справу свае апошнія капейкі. Ці-ж ня нам, матар'яльна забясьпечаным тут, належыцца дапамагчы ім хоць невялікаю ахвяраю?..

Калі ў беларускай гісторыі быў калі-небудзь час, у якім эміграцыя магла стацца фактарам працэсу нацыянальнага адраджэньня, дык гэта сёньня. Не прапусьцем гэтае нагоды! Як сказаў Васіль Быкаў на адным са сходаў у Менску — *гісторыя можа ня даць нам больш такога шанцу.*

Дапамога суродзічам на Бацькаўшчыне будзе разьмяркоўвацца грамадзкім камітэтам, у склад якога ўвайшлі ніжэй падпісаныя, а таксама прадстаўнікі ад БАЗА, БІНіМ і іншых арганізацыяў. Кожная сума дапамогі будзе належна разглядацца і ўхваляцца супольна. Ахвярадаўцам будуць рассылацца раз на год фінансавыя справаздачы. Бязумоўна, характар дапамогі будзе вымагаць пэўнае дыскрэтнасьці.

Мы разьлічваем, вельмі Паважаны Сп.(-ня), на Вашую шчодрасьць у гэтай справе. Вашая ахвяра на ФАБ спрычыніцца ня толькі да ўзмацненьня беларускага нацыянальнага руху, але дасьць і Вам асабіста маральнае задаваленьне, што ахвяраваныя Вамі грошы пойдуць на высакародную справу дапамогі тым, хто паставіў перад сабой на першае месца служэньне свайму народу.

Мы будзем удзячныя за ахвяру любой вышыні; просім аднак памятаць, што палітычна-нацыянальная дзейнасьць, якую вядуць цяпер суродзічы на Бацькаўшчыне, вымагае вялікіх выдаткаў, а гэта значыць, што кожны з нас павінен быць максымальна шчодрым. Чэк просім выпісваць на: **Byelorussian Renewal.** Чэк (ці забавязаньне) на тысячу даляраў забясьпечыць Вам пасьветчаньне «Прыяцеля Адраджэньня Беларусі». Перасылайце Вашыя ахвяры на:

**Byelorussian Renewal and Cultural Fund**
**230 Springfield Ave.**
**Rutherford, N.J. 07070**

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

З падзякаю за ахвяру і пашанай да Вас.

Сябры часовае ўправы ФАБ:
**Др. Юрка Кіпель**
**Віктар Тур**
**Аляксандар Сільвановіч**

## НА ФОНД АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСІ

Ахвярадаўцы:

| | |
|---|---|
| А. і Н. Сільвановіч | ам.д. 1000 |
| Я. Сажыч | 1000 |
| Я. Запруднік | 1000 |
| В. і З. Кіпель | 1000 |
| С. і Л. Гутырчык | 1000 |
| Ю. і Л. Кіпель | 1000 |

Усім вялікая падзяка!

**Управа ФАБ**

## МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСКІ НАРОД У САВЕЦКАЙ ГАЗЭЦЕ

З нагоды візыту ў Ватыкан савецкага лідэра М. Гарбачова газэта «Літаратура і Мастацтва» (8.XII.89), пішучы пра візыт, зьмясьціла поўны тэкст «Малітвы за Беларускі Народ», перадрукаваўшы яе зь беларускага бюлетэню Ватыканскага радыё. Пры гэтым газэта зазначыла: «Спадзяёмся, што звышпільныя атэісты не западозраць нас у рэлігійнай прапагандзе. Тым больш, што ў апошні час мы пачынаем, здаецца, прывыкаць да такіх духоўных праяваў, як малітва, казань, літургія (набажэнствы на мітынгах-рэквіемах, нядзельныя малітвы і духоўныя пропаведзі па Цэнтральным тэлебачаньні і г.д.)».

Выйшла пабеларуску кніжка выбраных твораў вядомага ўкраінскага паэта Яра Славутыча. Пераклад і ўступны артыкул Масея Сяднёва. Цана (зь перасылкай)— 5 ам. даляраў. Кніжку можна набыць, пасылаючы замаўленьне на адрас рэдакцыі «Беларуса» або на адрас перакладчыка:

M. Sednew
15 Alex Lane
Glen Cove, NY 11542

**Анатоль Белы**

# СКАРЫНАВЕДНАЯ КНІГА «ЗАПІСАЎ»

**«Запісы» № 18. Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва. Нью-Ёрк, 1988**

***Ад Рэдакцыі:*** *Зьмяшчаем ніжэй прысланую нам зь Менску рэцэнзію Анатоля Белага на 18-ю кнігу «Запісаў» БІНіМ. Рэцэнзія гэтая, зь невялікімі пропускамі, зьмешчаная ў газэце «Літаратура і Мастацтва» (29.XII.89). Але паколькі шмат каму з чытачоў «Беларуса» газэта «ЛіМ» недаступная, мы друкуем рэцэнзію, а ейнаму аўтару, ведамаму беларускаму навукоўцу й грамадзкаму дзеячу, шчыра дзякуем за прысланьне яе.*

Перада мной ляжаць «Запісы» № 18, выдадзеныя ў Беларускім Інстытуце Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку за 1988 год.

Вельмі шкада, што нават у наш перабудовачны час гэтая кніга ў Беларусі — вялікая бібліяграфічная рэдкасьць. Яе ня знойдзеш ні ў рэспубліканскай Ленінскай бібліятэцы, ні ў бібліятэцы імя Якуба Коласа АН БССР. А між тым у кнізе няма нічога крамольнага, яна цалкам прысьвечана Ф. Скарыну, 500-годзьдзе якога будуць адзначаць ня толькі Беларусы, але па рашэньню ЮНЭСКА і ўсё чалавецтва. Магу засьветчыць, што цікавасьць беларускіх вучоных, якія займаюцца праблемамі Скарыніяны, да гэтай кнігі нязвычайна вялікая. Да мяне неаднаразова зьвярталіся многія буйныя скарыназнаўцы з просьбай пакарыстацца гэтай кнігай. Павышаная цікавасьць да яе натуральная, бо там выкладзеныя дасьледаваньні буйнейшых скарыназнаўцаў, якія пражывалі і пражываюць за межамі СССР.

Кніга адкрываецца артыкулам Сымона Брагі (Нью-Ёрк) «Доктар Ф. Скарына і кароль Фэрдынанд». Даецца тэкст граматы чэшскага караля Фэрдынанда I на беларускай і чэшскай мовах. Аўтар доказна раскрывае, што «Доктар Франьцішак Рус Скарына з Полацку, у Чэшскім Каралеўстве іншаземец наш былы садоўнік», указаны ў грамаце караля ад 21 студзеня 1552 г. і выдадзенай сыну Скарыны Сымону Русу ёсьць тая-ж самая асоба, што і ў знойдзеных больш як стагодзьдзе назад чэшскім гісторыкам Дворскім, а затым перавыдадзеных у канцы 30-х гадоў А. В. Флароўскім копіях пісьмаў, напісаных у Пражскім замку ад імя чэшскага караля Фэрдынанда пра каралеўскага садоўніка ў Празе на Градчанах, дзе імя Скарыны дэфармавана ў напісаньні. Аднак самы цікавы матар'ял чакае нас наперадзе ў «Пісьмовай Скарыніяне». Пісьмы 1965-1968 гг. Антона Васільевіча Флароўскага і Вітаўта Тумаша. Перапіска двух буйных вучоных у галіне Скарыніяны сапраўды прываблівае і захапляе. Мы як-бы прысутнічаем у лябараторыі дум вучоных Беларуса Вітаўта Тумаша (ён-жа Сымон Брага) і Рускага Антона Флароўскага з Прагі. Мы сочым, як нараджаецца думка ў аднаго вучонага, як яна сустракае пэўнае супраціўленне з боку другога, як ідзе працэс удакладненьня і затым канчатковага навуковага пагадненьня. Зь перапіскі мы даведваемся столькі пабочных цікавых рэчаў, якія ніколі ня могуць быць апублікаваны ў навуковым артыкуле з-за іх, здавалася-б, другараднасьці. Але менавіта гэтыя пабочныя рэчы, прыклады, довады і складаюць жывую плоць і кроў усёй навуковай спрэчкі, увесь яе бляск і жывасьць. Мы знаходзімся ў цэнтры гэтай спрэчкі, самі як быццам удзельнічаем у ёй, прымаем ці адвяргаем довады таго ці іншага буйнога вучонага.

Эфэкт жывога прысутнічаньня, што можа быць лепшым за яго?

Эпісталярная спадчына адрозьніваецца высокім інтэлектуалізмам, прафэсіяналізмам, сапраўдным інтэрнацыяналізмам і беражлівымі адносінамі да нацыянальных пачуцьцяў калегі. Гэта ярка праяўляецца ў тым, што, калі адзін вучоны піша пісьмо на беларускай мове, то другі адказвае яму на расейскай і абодва яны цудоўна разумеюць адзін аднаго. І яшчэ немалаважны факт. У перапісцы паміж двума даволі вядомымі скарыназнаўцамі няма ні малейшай ноткі прафэсіянальнага саперніцтва. Наадварот, ад перапіскі павявае цяплынёй, сардэчнасьцю, шчырасьцю, асобасным праяўленьнем заклапочанасьці пра стан здароўя калегі. Трэба ўлічыць, што перапісваюцца не маладыя людзі, а сталыя мужчыны, якія знаходзяцца ў пажылым веку. Перапіска менавіта і абрываецца, можа быць, на самым цікавым, у 1968 годзе з-за сьмерці А. В. Флароўскага.

Гэтая перапіска акрамя чыста асобасных і пазнавальных аспэктаў у разьвіцьці Скарыніяны набывае вялікае значэньне для новай генэрацыі і вучоных-скарыназнаўцаў, бо ў ёй выказаныя цікавыя напрамкі, у якіх павінны ісьці пошукі новых навуковых даных, дадзена іх глыбокае абгрунтаваньне, намечаная, а ў некаторых выпадках і распрацаваная мэтадалёгія гэтых пошукаў.

Безь перабольшаньня і нацяжкі хочацца сказаць, што гэтая эпісталярная спадчына двух карыфеяў у галіне Скарыніяны зьяўляецца як-бы запаветам для новай генэрацыі вучоных.

Выключнае навуковае значэньне мае даволі аб'ёмісты матар'ял Вітаўта Тумаша «Скарынаў каляндар». Упяршыню ў скарынінскай спадчыне ажыцьцёўлена публікацыя поўнага тэксту Пасхалій з «Падарожнай кніжкі» Скарыны, надрукаванай ім у Вільні не пазьней 1522 году. Перадрук ажыцьцёўлены з найбольш поўнага экзэмпляру кнігі, якая захоўваецца ў Каралеўскай бібліятэцы Капэнгагену.

Аўтар паклапаціўся пра сваіх чытачоў і акрамя факсымільнага аднаўленьня гэтай кніжкі даў адаптацыю, яе перадрук на сучасны шрыфт, што спрасьціла яе чытаньне. Акрамя гэтага, аўтар робіць у асобных артыкулах пэўныя дасьледаваньні, удала спалучае астранамічныя зьвесткі зь біблейскімі, дае тлумачэньні, складае назвы месяцаў, дзён тыдня, назвы сузор'яў задыякаў скарынінскага календара, дае іх сучасную назву на беларускай мове, складае табліцы даўжыні дня адпаведна календара Скарыны, складае сьпіс сонечных і месячных зацьменьняў, а таксама альфабэтны ўказальнік сьвятых і царкоўных сьвятаў, указаных у гэтым календары. Безь перабольшаньня можна сказаць, што праробленая энцыкляпэдычная работа адным чалавекам, што часам не па сілах цэламу калектыву.

Хто займаецца праблемамі мовы Скарыны, знойдзе ў гэтай кнізе цікавыя дасьледаваньні Янкі Садоўскага «Марфалягічныя асаблівасьці Кнігі Царстваў Ф. Скарыны».

Зь вялікай цікавасьцю і асаблівым пачуцьцём гордасьці чытачы «Запісаў» могуць пазнаёміцца з навукова-культурным жыцьцём нашых суайчыньнікаў у Амэрыцы і Канадзе. Гэтую хроніку культурнага жыцьця за

*(Працяг на 6-й б.)*

## КАНАДЫЙСКАЕ ТАВАРЫСТВА «БЕЛАРУСЬ»

### Таварыства для культурных сувязяў зь Беларусяй

Канадыйскае Таварыства «Беларусь» (старшыня — сп. Аляксандар Палескі) актыўна спрыяе адраджэньню беларускае культуры. Яно брала дзейны ўдзел у арганізацыі 18-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, спрычынілася да прыезду на Сустрэчу музычна-інструмэнтальнага ансамблю «Дубіны» зь Беласточчыны, пісьменніка Сакрата Яновіча, рэдактара беларускае радыёпраграмы ў Беластоку сп. Уладыслава Праховіча. Таварыства ладзіць беларусаведныя конкурсы на Беласточчыне, актывізуючы гэтым культурнае жыцьцё Беластоцкага Краю, паслала пэрсанальны камп'ютэр Беларускаму Аб'яднаньню Студэнтаў у Польшчы, праводзіць збор дапамогі ахвярам Чарнобыля, Беларускаму Народнаму Фронту «Адраджэньне».

Бязумоўна, на ўсю гэтую дзейнасьць патрэбныя сродкі. Дасюлешняя праца Таварыства была магчымая дзякуючы вялікай прыхільнасьці Беларусаў Таронта, Кліўленду, Нью-Ёрку, Нью-Джэрзы, Дэтройту ды Чыкага. Усім ім Таварыства «Беларусь» шчыра дзякуе ды просіць далей быць шчодрымі ў падтрыманьні ягонае дзейнасьць, выпісваю чэкі на: **B. A. O. C., Parish of St. Kiryla of Turau** (з дапіскай: Таварыства «Беларусь»).

Чэкі просіцца пасылаць на адрас:

Canadian Bielarus Society
2335 Lakeshore Blvd. W. # 806
Etobicoke, Ont. M8V 1B9
CANADA

## ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ ПРАВІНЦЫІ КВЭБЭК

### Зварот аб дапамозе

Згуртаваньне Беларусаў канадзкае правінцыі Квэбэк зьвярнулася «Да ўсіх суродзічаў-Беларусаў і іх нашчадкаў» з заклікам дапамагчы ім набыць грамадзкі будынак. Дзеля гэтае мэты створаны камітэт з 15 асобаў, які паставіў перад сабой мэту «сабраць найменш 200 тысячаў даляраў, каб купіць будынак, які-б сам сябе аплачваў для ўтрыманьня парафіі. Парафія будзе належаць да Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, называцца парафіяй нашага Збавіцеля ў Манрэалі, пад юрысдыкцыяй Высакадастойнага Архіепіскапа Мікалая з Таронта».

У звароце сказана:

«Мы ня просім міластыні, але патрабуем вашай падтрымкі, каб былі пазычкі па адной тысячы даляраў ад чалавека. Калі купіцца маёмасьць, па пэўным часе, у меру магчымасьцяў, калі пазволіць бюджэт і як будзе ўстаноўлена камітэтам, пазычкі паволі будуць выплачвацца. Просіцца памятаць, што ахвяры таксама будуць прыймацца».

Зварот адрасаваны «да ўсіх суродзічаў-Беларусаў усіх веравызнаньняў, а таксама іх нашчадкаў, каб падтрымалі нас на моцы свае веры й любові да сябе, сваіх людзей ды сваіх сем'яў, у якіх мы павінны захаваць свае традыцыі, сваю апрычонасьць».

Трэба спадзявацца, што беларускае грамадзтва ў цэлым сьвеце адгукнецца на гэты заклік.

У камітэт набыцьця будынку ўвайшлі наступныя асобы:

**у Квэбэку:** сп. Анатоль Хрэноўскі — старшыня (тэл. 514-688-9783), сп-чна А. Абадзінская — заст. старш. (т. 514-722-0686), сп-чна Г. Хрэноўская — сакратар (т. 514-688-9783), сп. Ю. Хрэноўскі — скарбнік (т. 514-688-9783), сп. Ю. Акула — давераны (trustee) (т. 514-684-6679), У. Бяльмач — давераны (т. 514-737-2634), сп. Ф. Сакаўчук — дав. (т. 514-689-0750), сп-ня З. Лашук — дав. (т. 514-721-9277), сп-ня Л. Абадзінская — дав. (т. 514-722-0686);

**у Антарыё:** Арх. Мікалай, Таронта (т. 416-690-1938), др. Р. Жук-Грышкевіч, Бэры (т. 705-728-7581), сп-ня І. Сурвіла, Гул (т. 819-770-2783), др. Б. Рагуля, Лёндан (т. 519-432-5164).

Да кожнага ль іх можна зварачацца па дадатковую інфармацыю.

Чэкі з пазыкаю або ахвярамі можна пасылаць у банк на наступны адрас:

Byelorussian Ass'n of Prov. Quebec
c/o Bank of Montreal
1100 Blvd. Labelle
Chomedey, Laval, Quebec
H7V 2V5

## ВЕНСКІ КАМІТЭТ У БССР

У кастрычніку летась зь ініцыятывы Беларускага Народнага Фронту быў створаны ў БССР камітэт абароны правоў чалавека. Камітэт названы Венскім камітэтам, мэтай якога будзе сачыць выконваньне Венскіх пагадненьняў, якімі закончылася ў студзені летась канфэрэнцыя дзяржаўудзельніцаў Гэльсынскага пагадненьня. Ініцыятыўная група для стварэньня камітэту выступіла ў самвыдавецкім бюлетэні «Белорусская Трибуна» (№ 9/89) з заклікам, у якім сказана:

«Абставіны ў рэспубліцы ў галіне ўжыцьцёўленьня й аховы самых істотных правоў чалавека і далей застаюцца няспрыяльнымі. Цірэдчас сілы апаратнае мяншыні гвалтуюць самыя элемэнтарныя праўныя нормы, даўно ўсталяваныя ў цывілізаваных краінах. Пад шумныя гутаркі аб перабудове і праўнай дзяржаве яны безь відавочных удачаў намагаюцца захаваць на тэрыторыі Беларусі заказьнік брэжневізму».

Далей у звароце падаюцца факты адміністрацыйна-паліцыйнае самаволі.

*З жыцьця ў Саўт-Рывэры, Н.-Дж.*

## СУСТРЭЧА НОВАГА ГОДУ

У Беларускім Грамадзкім Цэнтрам у Саўт-Рывэры адбылася, наладжаная парафіяльнай радай царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкае, людная сустрэча Новага Году. Людзей прыбыло шмат больш, чымся магла зьмясьціць заля. Паспрыяла гэтаму прызначэньне прыбытку ад сустрэчы на дапамогу ахвярам чарнобыльскае радыяцыі ў Беларусі.

Сустрэча была вельмі добра наладжаная. Удзельнікаў прывітаў сп. Міхась Бахар, старшыня парафіяльнае рады, які шчыра падзякаваў усім за прыбыцьцё, асабліва гасьцём здалёк. З навагоднім жартаўлівым словам выступіла сп-ня Ірэна Цуприк. Была смачная яда, спраўная абслуга, жвавая аркестра Івана Альхоўскага. Кіраўнік аркестры, трэба адзначыць, належна ставіцца да беларускіх мэлёдыяў і песьняў, стала папаўняючы імі свой рэпэртуар.

Сустрэча дала чыстага прыбытку крыху больш за тры тысячы даляраў, якія поўнасьцяй будуць пераказаны на дапамогу ахвярам Чарнобыля.

## КАСТУСЮ МЕРЛЯКУ

споўнілася 25 сьнежня 1989 году 70 гадоў жыцьця. Жадаем яму добрага здароўя, дабрабыту, посьпехаў і плённае працы. Сто год!

**Прыхаджане й царкоўная ўправа царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле, Н.-Ё. і Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью-Ёрку.**

## НЬЮЁРКСКІЯ ГАЗЭТЫ ПРА ДАНЧЫКА

Адна з галоўных газэтаў гор. Нью-Ёрку («Нью-Ёрк Поўст», 2.I.90) зьмясьціла вялікі матар'ял пра беларускага барда, жыхара гораду, Данчыка Андрусышына. Артыкул ілюстраваны фатаграфіяй сьпевака і здымкам, на якім Данчык пяе на адным із сваіх нядаўных менскіх канцэртаў. Пра Данчыкава падарожжа ў Беларусь хораша расказаў карэспандэнт газэты Джэры Толмэр. Артыкул загалоўлены Hello, Good Byelo, што можна было-б перакласьці як «Прывітаньне, добрая Беларусь»; пад загалоўкам: «Беларусь у захапленьні ад ньюёркскага сьпевака».

Вось як пачынае свой артыкул Джэры Толмэр:

«Дэні Кей (славуты амэрыканскі кінаактор — рэд. «Б-са») сьпяваў адну такую песьню «пра Омск і Мінск і Пінск», але ёсьць адзін малады амэрыканскі выканальнік народных песьняў — блізу зусім няведамы ў Злучаных Штатах — які сёньня больш славуты ў Мінску, чымся Дані Кей наагул калі-небудзь быў».

Далей газэта падала інфармацыю пра Беларусь. «Каб зразумець гэтую гісторыю, трэба ведаць, — піша «Н.-Ё. Поўст», — што ёсьць у складзе Савецкага Саюзу рэспубліка, якая завецца Беларусь — і гэта зусім не Расея, хоць у даўніну Беларусь называлі часамі Белай Русьсю. Ясна?» Падаўшы далей асноўную інфармацыю пра месцазнаходжаньне Беларусі, ейнае жыхарства, газэта апісала, як Данчык гастраляваў па Беларусі разам зь Лявонам Барткевічам і Сяржуком Сокалавам-Воюшам, зь якім энтузіязмам яго сустракалі, зь якім захапленьнем слухалі.

Газэта падала Данчыкаву біяграфію: пра ягоную навуку, знаёмства зь «Песьнярамі», зь Лявонам Барткевічам, Вольгай Корбут, жонкай Барткевіча, паінфармавала пра выдадзеныя ў Нью-Ёрку тры ягоныя кружэлкі.

Артыкул прыцягнуў да сябе ўвагу іншае папулярнае газэты «Стар». У гэтай публікацыі (30.I.90) зьмешчаная, пад заг. «Няведамы ньюёркавец стаўся рок-сэнсацыяй у СССР», нататка пра Данчыка і ягоная фатаграфія: Данчык у вышыванай сарочцы з амэрыканскім і беларускім нацыянальным сьцягамі ў руках.

«Дзякуючы галоснасьці, — піша газэта, — ён стаўся вялікім, вялікім, вялікім у Беларусі. Фактычна, толькі Майкл Джэксан папулярнейшы за яго».

*З жыцьця ў Нью-Ёрку*

## ГОСЬЦІ ЗЬ МЕНСКУ

У Фундацыі імя П. Крэчэўскага адбыўся 15 сьнежня вечар рэжысэркі й сцэнарысткі Вацлавы Вярбоўскай зь Менску. Сп-ня Вярбоўская прыехала ў Злучаныя Штаты з дачкою Натальляй, студэнткай менскага Інстытуту культуры, каб азнаёміцца з жыцьцём Беларусаў. У выніку палітыкі перабудовы, сп-ня Вярбоўская, распрацоўвае нацыянальную тэматыку, піша радыё- і тэлесцэнарыі з жыцьця Янкі Купалы, Браніслава Тарашкевіча, Максіма Багдановіча. Пра сваю працу ў гэтай галіне яна й расказала аўдыторыі, якая з зацікаўленьнем прыбыла на вечар. Дакладчыца расказала пра палегчаныя ўмовы дасьледніцкае й пісьменьніцкае працы. Слухачы мелі нагоду пачуць фрагмэнт радыёпастаноўкі, напісанае й рэжысэраванае сп-няй Вярбоўскай, пра абставіны, што прывялі Янку Купалу да самагубства. Дакладчыца адказала на пытаньні.

Вечар закончыўся пачастункам і нефармальным абменам думкамі ды інфармацыяй.

*З жыцьця ў Канадзе*

## ЗЬБЕРАЖЭНЬНЕ МОВАЎ

На паседжаньні Этнакультурнай Рады ў Таронце 18 лістапада летась разглядаўся заканапраект фэдэральнага ўраду (Bill C-37) аб стварэньні адмысловага інстытуту для захаваньня спадчынных моваў. Заданьнем такой установы было-б спрыяць этнічным групам краіны перахоўваць і разьвіваць сваю культурную спадчыну.

Да Канадзкай Этнакультурнай Рады належыць і Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады.

Прапанова аб стварэньні інстытуту для захаваньня моваў — гэта вынік палітыкі шматкультуралізму, якую праводзіць урад Канады. Прынцып, што ляжыць у аснове гэтай палітыкі, быў красамоўна выказаны Дзяржаўным сакратаром Дэйвідам Кромбі ў студзені 1988 году на канфэрэнцыі, прысьвечанай справе захаваньня этнічных моваў Канады. Вось што сказаў сп. Дэйвід Кромбі:

«Калі найменшая з грамадаў трымаецца свае мовы й культуры, чалавек карыстае ад гэтага найбольш. Гэта ўжываючы сваю мову, чалавек можа вызначыць сваё месца ды адчуць тое, што хтосьці назваў асноўнымі звычкамі сэрца; гэтак вось чалавек стаецца асобай. Карыстаньне мовай, якое ты можаш навучыцца ў сваёй грамадзе, дае тваёй грамадзе магчымасьць працягваць сябе, разьвівацца й абнаўляцца, і гэткім чынам ствараць цуд чалавечага існаваньня, спалучаючы адно пакаленьне з наступным. Тыя грамады, што ня ведаюць вартасьці мовы для сваіх людзей і для цяглаcьці самое грамады ды якія не разумеюць вартасьці спалучаньня пакаленьня з пакаленьнем, тыя грамады паміраюць.

«Як асноўны прынцып, захаваньне мовы павінна праводзіцца перш-наперш у грамадзе. Няма абсалютна ніякае замены жаданьню грамады мець сваю мову зьберажонай — ані ўрадавая палітыка, ані якія-хаця сумы грошай, ані што-небудзь іншае ня можа спрычыніцца да захаваньня мовы у якой-б ні было грамадзе, калі гэтая грамада сама ня мае жаданьня арганізавацца ды стварыць калектыўную волю і падтрымку гэтае волі, каб дасягнуць гэтага».

Ці-ж ня тое самае сказаў нам Францішак Багушэвіч у сваім запавеце з 1891 году? — «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»

**Р. Жук-Грышкевіч**



**З нагоды 40-годзьдзя існаваньня Беларускай праграмы Ватыканскага радыё** *а. Робэрт Тамушанскі, адказны рэдактар праграмы, адслужыў 5 студзеня ў капліцы Дабравешчаньня ў Ватыканскім радыё літургію, у часе якой прыслугоўвалі двух сэмінарыстаў зь Беларускай ССР. Беларускія 15-хвілінныя радыё-праграмы перадаюцца штодня з паўтарэньнем перадачы ўраньні наступнага дня.*

*З жыцьця ў Лёндане (Ангельшчына)*

## ДАКЛАДЫ ПРА МОВУ І ФАЛЬКЛЁР

У памешканьні Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны 16 сьнежня госьці зь Беларусі, др. А. Аксамітаў і ягоная жонка др. Л. Малаш, абое супрацоўнікі АН БССР, выступілі з дакладамі пра сучасны стан беларускае мовы і фальклёру ў БССР.

Старшыня ЗБВБ сп. Янка Міхалюк, вітаючы дакладчыкаў, прывітаў таксама і іншых гасьцей: др. Віктара Сянькевіча зь Гішпаніі, сп. Віктара Тура зь Нью-Ёрку і а. Леаніда Ількевіча з дачкою Ленай з Арла, дзе а. Леанід, Беларус з паходжаньня, мае сваю парафію.

У сваім дакладзе пра стан беларускае мовы др. Аксамітаў, карыстаючыся афіцыйнымі савецкімі статыстычнымі дадзенымі, паказаў на глыбокі заняпад нацыянальнае мовы ў Рэспубліцы. Адраджэньню мовы ды зьвязанай зь ёю нацыянальнай сьвядомасьці, сказаў дакладчык, вельмі шмат перашкаджае страх, атрыманы ў спадчыну ад недалёкае мінуўшчыны, перашкаджае таксама дыскрымінацыя роднае мовы ў школьніцтве, дзе на яе адводзіцца меншая колькасьць гадзінаў, як на мову расейскую, і дзе беларускай мове дадзены такі «прывілей», што ад яе можна адмаўляцца як ад абавязковага прадмету.

Др. Л. Ламаш, гаворачы мілагучнай беларускай мовай, азнаёміла слухачоў із справаю збору й вывучэньня беларускага фальклёру. Ужо выйшла 40 тамоў беларускае народнае творчасьці: песьні жніўныя, восеньскія, калядныя, валачобныя, вясельныя — іх аж шэсьць тамоў — радзінныя, пахавальныя ды іншыя. Беларускі фальклёр, сказала дакладчыца, найбагацейшы з усіх славянскіх. Др. Ламаш вывучала гэтак званыя «старыя рускія песьні» ў Сібіры ды іншых рэгіёнах Савецкага Саюзу і ўстанавіла, што гэта песьні беларускія, завезеныя туды сваім часам выхаджэнцамі або высланцамі зь Беларусі.

У лёнданскай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны др. Ламаш упяршыню зь цікавасьцяй азнаёмілася з архіўнай спадчынай кампазытара Міколы Куліковіча-Шчаглова.

Прыемна прайшлі пасьля, гутаркі за чаркай віна і пры смачнай закусцы, якую нарыхтавала сама др. Л. Ламаш, за што ёй вялікі дзякуй.

**А. Здanковіч**

*З жыцьця ў Чыкага*

## КАЛЯДНАЯ ПРАГРАМА Ў МУЗЭІ

Калядны фэстываль у Музэі Навукі й Індустрыі ў Чыкага — гэта папулярная імпрэза году, што прыцягвае тысячы наведнікаў, асабліва дзяцей. У фэ-



стывалі, што пачаўся 24 лістапада летась і пратрываў да 1-га студзеня, узялі ўдзел 43 этнічныя групы, выстаўляючы свае ўпрыгожаныя ялінкі, жалабкі, даючы сцэнічныя паказы.

Беларуская ялінка, была ўдала прыбраная сп-твам Люняй і Антонам Бяленісамі ды сп-нямі Гэняй Бяленіс, Верай Рамук і Валяй Мазура. Ля ялінкі была пастаўленая прываблівая лялька ў белаурскім нацыянальным касьцюме (пашытым сп-няй В. Рамук) зь невялікай картай Беларусі ў руцэ (карту зрабіў Нікадэм Жызьнеўскі).

2-га сьнежня адбыўся сцэнічны паказ «Каляды ў Беларусі», напісаны паангельску сп-няй Рамук. Сп-ня Рамук у сваім уводным слове расказала пра беларускія Каляды, а ў далейшым праграму вёў др. Эл Талівэр. Ён расказаў пра калядныя звычаі, а інфармацыю пра Беларусь паясьняў пры дапамозе карты, якую трымалі на сцэне двое дзяўчатак, апранутых у нацыянальныя касьцюмы. П'еса «Каляды ў Беларускі» прадставіла калядны вечары: куцьця, звычаі, варажба, народныя танцы, дзіцячыя гульні ды прыход калядоўшчыкаў (прапяялі тры калядкі пабеларуску).

Поўная заля гледачоў энтузіястычна ўспрыянала пастаноўку, узнагароджваючы выканальнікаў бурнымі воплескамі.

Музычным дырэктарам паказу быў сп. Эдвін Ўокер.

Вялікі дзякуй належыцца ўсім арганізатарам і выканальнікам праграмы, якая была запісаная сп. Н. Жызьнеўскім на відэайстужку.

**Др. Вітаўт Рамук**

*З жыцьця ў Парыжы*

## ЦІКАВАЕ СПАТКАНЬНЕ

У кастрычніку летась на Паўночным вакзале Парыжу Міхась Наўмовіч, старшыня «Хаўрусу» ў Францыі, спатыкаў Міхася Наўмовіча, што прыехаў з Камянца ў Беларусі. Малодшы рэйшаму, у падарунак прыгожа выразанага з дрэва зубра. Як ён сказаў, у Белавескай пушчы цяпер жыве больш за 300 гэткіх магутных зьвяроў. Летась 16 зуброў было забіта, у бальшыні самцы — іх зашмат і яны перашкаджаюць нармальнаму разьвіцьцю статкаў. У некаторых рэстаранах можна было замаўляць зубровае мяса.

Міхась Наўмовіч камянецкі — сым-



*Сустрэча ў Парыжы: зьлева — Міхась Наўмовіч з Парыжу, справа — Міхась Наўмовіч з Камянца, пасярэдзіне — Валодзя, брат Міхася старэйшага і бацька малодшага з дачкою Тамарай.*

на 28 гадоў, Міхась прыехаў у Францыю ў госьці. Абодвы Міхасі маюць ня толькі аднолькавыя імёны й прозьвішчы, але й тыя самы фах: Міхась старэйшы скончыў Вышэйшую Мастацкую Акадэмію Францыі ў Парыжы і займаецца скульптураю ў камені, тымчасам як Міхась малошы скончыў мастацкую школу ў Бабруйску — займаецца скульптураю ў дрэве. Ён прывёз свайму дзядзьку, Міхасю старэйшаму... патычны, працавіты й таленавіты мастак. У Францыі яму вельмі падабалася. Ён вярнуўся на Беларусь з валізкамі поўнымі электрычных машынаў, долатаў ды іншых прыладаў для свае прафэсіі. Казаў, што цяпер зможа хоць часткава працаваць на вольную руку.

Трэба пажадаць яму высокага палёту і ўдачаў у ягонай працы.

**М. Смага**

*З жыцьця ў Аўстраліі*

## У СУСЬВЕТНАЙ ЛІЗЕ СВАБОДЫ

Аўстралійскі сэктар Сусьветнай Лізі Свабоды правёў 22 сьнежня ў паўдзённым Пэрце перавыбары кіраўніцтва. У агульным сходзе, які адбыўся ў літоўскай залі, Беларусаў прадстаўляў сп. М. Р. За новага старшыню сэктару абраны сп. Б. Скэг, які, пазнаёміўшыся зь беларускім прадстаўніком, выявіў вялікае зацікаўленьне падзеямі на Беларусі. Завязаліся сяброўскія сувязі. Калі беларускі прадстаўнік пакідаў залю, удзельнікі сходу крыкнулі: «Свабоду Беларусі!»

## ДАПАМОГА АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ

Фэдэральная Рада Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі стварыла Камітэт дапамогі ахвярам Чарнобыля. Камітэт праводзіць збор грошай на закуп патрэбных апаратаў і мэдыкамэнтаў.

**Р. М.**

***ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ «БЕЛАРУСА»:***

**Інтэрв'ю гісторыка Міколы Іванова**, які жыве ў Польшчы, зь беларускім савецкім мастаком Аляксеем Марачкінам пра палітычнае змаганьне ў БССР і сучасны стан нацыянальнай сьвядамасьці Беларусаў.

**Вітаўт Зубкоўскі** зрабіў агляд англамоўнае беларускімі за 1989 год.

***ПАДТРЫМВАЙЦЕ «БЕЛАРУСА» — ГЭТА ВАШ ЛУЧНІК З РОДНЫМ КРАЕМ!***

## РОДНАЯ МОВА Ў БАПТЫСТАЎ

Зь Менску ў Канаду прыйшла паштоўка, у якой набожны чалавек піша: «У сваёй царкве мы практыкуем беларускі язык у час служэньняў. Пяюць многія псальмы — і што дзіўна: як веруючыя, так і няверуючыя прымаюць гэта з радасьцю, вершы многія чытаюць таксама пабеларуску. А калі нядаўна праводзілі вечар Бібліі, то ўсё служэньне прысьвечанае Слову Божаму, якое прыйшло да Беларусі, толькі на роднай мове. І Бог благаславіў».

*З жыцьця ў Клiўленьдзе*

## СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ

Адзьдзел Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў (ЗБАВ) адзначыў 12 лістапада летась 69-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня. Па літургіі й паніхідзе, адслужаных у царкве Жыровіцкае Божае Маці прат. а. Міхасём Страпком і ераманахам а. Якубам, адбыўся супольны абед, а пасьля яго — акадэмія. Адчыніў яе кіраўнік адзьдзелу ЗБАВ капітан Я. Каваленка. Сп-ні Тацьцяна Кананчук і Оля Лукашэвіч злажылі вянок кветак на сымбалічную магілу на ўшанаваньне памяці палеглых гэрояў. Прагучэў у супольным выкананьні жалобны марш «Сьпі пад курганам гэрояў». Галоўны даклад на тэму дня прачытаў кіраўнік Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі (АБАМ) сп. Юрка Азарка.

З прамовамі выступілі старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч і камандзер ЗБАВ маёр Сяргей Гутырчык.

Сп. Міхась Белямук прачытаў інфармацыю пра апошнія падзеі ў Менску. У мастацкай частцы з трыма песьнямі выступіў жаночкі хор «Васілёк» пад акампанімэнт Олі Дубаневіч-Макдэрмат.

*Прадстаўнікі арганізацыяў па злажэньні вянка сьпяваюць жалобны марш над сымбалічнай магілай.*

Другой часткай праграмы была справаздача др. Алы Орса-Рамана аб падарожжы танцавальнага ансамблю АБАМ «Васілёк» на Беласточчыну. Яна вельмі добра расказала пра выступленьні «Васілька», паказала відэазапіс падарожжа. Было відаць, што наведаньне «Васільком» Беласточчыны пакінула па сабе трывалы сьлед, і гэта было належна ацэнена аўдыторыяй. Дакладчыца падзякавала парафіі Жыровіцкай Божай Маці за вялікую фінансавую дапамогу ансамблю «Васілёк».

**К. П.**

## ПАМЯЦІ АЛЯКСАНДРА ДУБАНЕВІЧА

Мінуў год як да адыйшоў ад нас вечнай памяці Аляксандар Дубаневіч, шчыры Беларус і парафіянін Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Клiўленьдзе, штат Агаё.

Аляксандар Дубаневіч, народжаны 7 травеня 1915 г., памёр 8 лютага летась. Бацькі ягоныя, Якуб і Юльляна, жылі каля Вялейкі, там-жа нарадзіўся й Аляксандар. Служыў у польскім войску, трапіў у палон да Немцаў. Па капітуляцыі адмовіўся вярнуцца на Бацькаўшчыну. Пазнаёміўся з Тацьцянай з-пад Курску й ажаніўся. Да выезду ў ЗША нарадзілася дачушка Оля.

Дубаневічы атрымалі запрошаньне ў Амэрыку ад фэрмэра із штату Ілінойс, куды выехалі ў 1949 годзе. На пачатку 1950 году даведаліся аб прыездзе Міхася Белямука ў Клiўленд — папрасілі яго дапамагчы перабрацца ў Клiўленд. Дапамогу атрымалі, і ў травені таго-ж году Дубаневічы часова жылі на кватэры Белямука і ягоных знаёмых. У студзені 1951 году Дубаневічы й Белямук знайшлі дом з 14 пакоямі, у якім 25 гадоў нiхто ня жыў. Дом адрэмантавалі, і ён служыў транзытным пунктам для тых Беларусаў, што прыяжджалі ў 1951-53 гадох у Амэрыку. Кожны нейкі час жыў у гэтым доме, які называлі «калхозам». У гэтым «калхозе» адбываліся першыя нацыянальныя й царкоўныя ўрачыстасьці, гэткія як адзначэньне дня незалежнасьці, Слуцкага паўстаньня, Вялікадня. Сьв. пам. пратаярэй Аляксандар Лічко ня толькі адпраўляў тут паніхіды й малебны, але сьвяніцу вялікодныя сьвянцонкі ды служыў літургіі раз на два тыдні. У доме адбываліся частыя зборкі моладзі й старэйшых. Ад лютага 1950 і да сакавіка 1954 году гаспадыняй тут была гасьцінная жонка Аляксандра Дубаневіча Тацьцяна, якая ніколі ня жалілася на зборкі і ўсіх ветліва запрашала. Дзякуючы «калхозу» сабралася грамада ў Клiўленьдзе.

Усе мы, хто памятае першыя гады 1950-1955, нізка сьхіляем галовы перад магілай сьв. пам. Аляксандра Дубаневіча ды яшчэ раз выказваем свае шчырыя спачуваньні ягонай сям'і: жонцы Тацьцяне, дачушкам Олі й Юльляне, а таксама ўнукам і ўнучкам.

Аляксандар Дубаневіч пахаваны на беларускай сэкцыі магільніка Рывэрсайд пры 25-й вуліцы.

**А. Б.**

*З жыцьця ў Манчэстэры (Ангельшчына)*

## ПЕРАВЫБАРЧЫ ЗЬЕЗД ВЕРНІКАЎ БАПЦ

24 верасьня летась адбыўся ў Манчэстэры зьезд вернікаў БАПЦ у Вялікабрытаніі. Пасьля літургіі й малебну, адслужаных у царкве Жыровіцкае Божае Маці мітр. прат. а. Янкам Абабуркам і прат. а. Янкам Пякарскім, адбыліся ў прыцаркоўнай залі нарады, якія адкрыў а. Абабурка, старшыня Рады БАПЦ. Абмеркаваньне бягучых справаў завяршылася абраньнем царкоўнай рады ў складзе: а. Я. Абабурка — старшыня, а. Я. Пякарскі — заст. старш., сп. Янка Ясьвіловіч — сакратар, сп. Уладзімер Гінько — скарбнік, сп. Хведар Лемяшонак — сябра.

Царква Жыровіцкае Божае Маці, якая знаходзіцца на Чапэл Роўд у Прэствічы, раёне Манчэстэру, зарэгістраваная ўладамі як дабрадзейная інстытуцыя і карыстаецца пэўнымі льготамі.

## СКАРЫНАВЕДНАЯ КНІГА «ЗАПІСАЎ»

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

1980-1982 гады падрыхтаваў Вітаўт Кіпель. Такую традыцыю не пашкодзіла-б і нам перанесьці ў нашы навуковыя кнігі, тым больш што нашы магчымасьці вялікія, а можа варта было-б падумаць пра выпуск такіх энцыклапэдычных даведнікаў аб навукова-культурным жыцьці Рэспублікі.

Пасьля такой кароткай анатацыі на апошнюю кніжку «Запісы» Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, спадзяюся, чытач сам можа пераканацца ў яе навуковай і эўрыстычнай (пазнавальнай — Рэд. «Б-са») значнасьці ня толькі для культурнага жыцьця беларускага, але і ўсіх славянскіх народаў.

Аднак у наш час перабудовы і плюралізму мысьленьня мы гэтую кнігу маем у адзінкавых экзэмплярах.

Хацелася-б, каб нашы дзяржаўныя цэнтры і навуковыя бібліятэкі ў парадку кнігаабмену атрымалі гэтыя важныя кнігі да 500-гадовага юбілею Ф. Скарыны. Але для гэтага неабходна, каб у Рэспубліцы перамагло новае мысьленьне. Каб мы ўсе нарэшце зразумелі, што нельга разьдзяляць культуру і навуку беларускага народу на тую, што робіцца ў Рэспубліцы, і тую, што робіцца суайчыньнікамі за яе межамі. Намаганьні ўсіх прагрэсыўных вучоных і дзеячоў культуры неабходна аб'яднаць. Вынікі іх працы павінны належаць усяму нашаму народу.

## ЗА ШЫРМАЙ ПУБЛІЧНАСЬЦІ — ЦЭНЗУРА!

**Аўтары й кнігі, выключаныя зь бібліятэкаў БССР і з кнігагандлю**

Рэдакцыя «Беларуса» дастала копію нядаўнае інструкцыі аб выключэньні зь бібліятэкаў БССР некаторых аўтараў, у тым ліку эміграцыйных, і кніжак, бальшыня зь якіх выдадзеныя ў 1920-30-х гадох. Інструкцыя была выстаўленая ў адным экзэмпляры Галоўлітам БССР, цэнзурнаю ўстановаю, поўны назоў якое Галоўнае Упраўленьне па ахове дзяржаўных тайн у друку пры Савеце Міністраў БССР. Нумар інструкцыі 114-дсп, датаваная яна 30 кастрычніка 1989 году і накіраваная «для службовага карыстаньня» «намесьніку начальніка Галоўнага архіўнага ўпраўленьня пры Савеце Міністраў БССР, т. Міхальчанку А. Н.». Як і ўсе афіцыйныя дакумэнты савецкіх адміністрацыйных органаў у БССР, яна напісаная парасейску. Да яе далучаны «Сьпіс кнігаў, што падлягаюць выключэньню зь бібліятэкаў і кнігагандлёвай сеткі».

Ніжэй падаём поўны тэкст інструкцыі:

Намесьніку начальніка<br>Галоўнага архіўнага<br>ўпраўленьня пры Савеце<br>Міністраў БССР<br>т. Міхальчанку А. Н.

Галоўнае ўпраўленьне накіроўвае «Сьпіс кнігаў, што падлягаюць выключэньню зь бібліятэкаў і кнігагандлёвай сеткі» да ведама і кіраўніцтва.

Таксама паведамляем, што згодна са «Сьпісам асобаў, усе творы якіх падлягаюць канфіскацыі» (Мінск, 1962) творы ніжэй пералічаных аўтараў, да разгляду гэтага пытаньня дырэктыўнымі органамі, застаюцца ў спэцфондах бібліятэкаў. Да іх залічаюцца:

Адамовіч Антон, Акінчыц Фабіян, Аляхновіч Францішак, Ануфрыеў Генадзь, Арсеньнева Натальля, Астроўскі Радаслаў, Віцьбіч Юрка, Гароднія Алесь, Даўгяла Дзьмітры, Дзяржынскі Ул., Зарэчны Цімох, Ільлінскі Мікола, Ільляшэвіч Хведар, Каган Сара, Казак Рыгор, Касьпяровіч Мікалай, Кандраценя Уладзімер, Ластоўскі Вацлаў, Лёсік Язэп, Лёсік Антон, Ліманоўскі Янка, Луцкевіч А. (Навіна Антон), Найдзюк Язэп, Некрашэвіч М. І., Смоліч Аркадзь, Станкевіч Станіслаў, Станкевіч Янка, Цэлеш Мікола, Цепін Васіль, Цьвяткоў Лявон, Цьвікевіч Аляксандар, Шнэйдэр Якаў, Эрык Макс.

Начальнік Галоўнага ўпраўленьня: **А. С. Лазоўская.**

Сьпіс кніжак складаецца зь дзьвюх частак: 1. кнігі, што падлягаюць выключэньню зь бібліятэкаў і кнігагандлёвай сеткі і 2. кнігі, месца пераховываньня якіх вызначае бібліятэка. У першай катэгорыі налічваецца 27 кнігаў, у другой — 44.

Вось кнігі першае катэгорыі, забароненыя:

**Аб антысэмітызьме.** Зборнік. Менск, 1924.

**Абдзіраловіч Ігнат.** Адвечным шляхам. Вільня, 1921. 71 с.

**Беларусь.** Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху. Менск, 1924. 322 с.

**Беларускі тэатр.** Вільня, 1924.

**Беларуская сялянска-работніцкая грамада.** Менск, 1928. 55 с.

**Бяроза А.** Расійска-польскі баль і беларускае пахмельле. Пінск, 1921. 14 с.

**Варонка Я.** Беларускі рух ад 1917 да 1920 году. Коўна, 1920.

**Гадавік Беларускага навуковага таварыства ў Вільні.** Вільня, 1933. 209 с.

**Зборнік «Наша Ніва».** Вільня, 1920, 48 с.

**Кремль за решёткой.** Подпольная Россия. Берлин, 1922 г.

**Ластаўка.** Зборнік вучнёўскіх твораў дзяржаўнай Люцынскай беларускай гімназіі ў Латвіі за 1923-1924 вучэбны год. Люцын, 1924. 32 с.

**Лебяда Тодар.** Песьні выгнаньня. Менск, 19??. 29 с.

**Міцкевіч М. і Лёсік Я.** Як Мікіта бараніў сваіх. Менск, 1927. 8 с.

**Народны прыгавор.** 1921

**Нацыянальнае пытаньне і камуністычная партыя.** Зборнік артыкулаў, прамоў і пастаноў. Менск, 1924. 231 с. (Уложаны пад рэд. У. Ігнатоўскага).

**Ніва і краскі.** Злажыў П. С. Вільня, 1927. 104 с.

**Памяці Івана Луцкевіча.** У першыя ўгодкі сьмерці яго. Вільня, 1920. 56 с.

• **Праграма Беларускай народнай партыі рэвалюцыйных сацыялістаў.** Вільня, 1920.

**Родны край.** III і IV пасьля лемантара кніжка для чытаньня. Вільня, 1921. 208 с.

**Рэлігійнае жыцьцё на Беларусі.** Вільня, 1932. 64 с.

**Соколов Борис.** Наука в Советской России. Берлин, 1921. 62 с.

**Спэкулянты беларускай душой.** 1921. 20 с.

**Супраць контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму.** Гомель, 1931. 135 с.

**Фашизированный идишизм и его наука.** Минск, 1930. На яўр. мове.

**Чаго чакаць Беларусам ад Польшчы.** 1921

**Шантыр Ф.** Патрэбнасьць нацыянальнага жыцьця для Беларусаў і самаадзначэньне народу. Слуцак, 1918. 21 с.

**Што трэба ведаць кожнаму Беларусу.** Зборнік артыкулаў розных аўтараў: Міцкевіча, Лёсіка, Ластоўскага і інш. Менск, 1918.

## ПАМЁР ПРЭЗЫДЭНТ УКРАІНСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ СЬВ. ПАМ. МІКОЛА ЛІВІЦКІ

**(9.1.1907-8.XII.1989)**

У сыботу 16 сьнежня 1989 г. адбыліся ў Баўнд-Бруку, Н.-Дж., у царкве сьв. Андрэя УАПЦ паховіны Прэзыдэнта УНР сьв. пам. Міколы Лівіцкага. Адпяваньне адбылося ўраньні ў Філядэльфіі, а ў Баўнд-Бруку была адслужаная сьв. літургія, якую ўзначаліў галава УАПЦ Мітрапаліт Мсьціслаў.

З выступленьняў на памінальным абедзе супрацоўнікаў і прыяцеляў нябожчыка паўстаў ясны вобраз гэтага вялікага палітычнага дзеяча, арганізатара, журналіста й прывадыра, які патрапіў у цяжкіх абставінах весьці ўкраінскую незалежніцкую думку заўсёды наперад. Прэзыдыюм і ньюджэрзыйскі сэктар Рады БНР прадстаўлялі на паховінах сп.сп. В. Русак і Я. Азарка. Сп. Русак перадаў спачуваньні сп-ні Лівіцкай і сям'і, Ураду й Радзе УНР ад імя Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча і Прэзыдыюму Рады БНР ды ад беларускіх прыяцеляў, якіх нябожчык меў так шмат. Сп. Русак выказаў думку, што добрыя дачыненьні, якія замацаваліся шматгадовым супрацоўніцтвам паміж Радай БНР і Радай УНР, будуць працягвацца й сёньня, у гэтым вельмі важным часе, калі там на Бацькаўшчыне народныя франты вядуць змаганьне за ідэалы дэмакратыі й нацыянальнае свабоды, якія былі ідэаламі і сьв. пам. Міколы Лівіцкага.

## СЬВ. ПАМ. ЯЗЭП ПАЗЬНЯК (ВАЙНІЛОВІЧ)

**(25.I.1925-10.XII.1989)**



10 сьнежня 1989 году памёр неспадзявана ў штаце Флярыда на 65-м годзе жыцьця сьв. пам. Язэп Пазьняк. Ягоны бацька Ігнат Вайніловіч быў нашчадкам беларускай магнацкай сям'і на Случчыне, а маці, Апалёнія, паходзіла з дому Пазьнякоў. Вайніловічы ў мінуўшчыне былі беларускімі патрыётамі. Язэпаў дзед Эдвард Вайніловіч пабудаваў за свой кошт Чырвоны касьцёл сьв. сьв. Сымона й Алены ў Менску, у якім цяпер знаходзіцца Дом кіно. Язэпаў бацька загінуў у часе сталінскіх рэпрэсіяў (цяпер рэгабілітаваны), і сям'я жыла ў цяжкіх абставінах.

У часе Другое сусьветнае вайны Язэпа прымусова вывезьлі на працу ў Нямеччыну. Па вайне служыў у польскіх узброеных сілах пад брытанскім камандаваньнем. На пачатку 1950-х гадоў быў студэнтам інжынерыі на Лювэнскім унівэрсытэце ў Бэльгіі. Ажаніўся ў Лёндане з Эвэлінай Брадшо і разам з жонкай эміграваў у Злучаныя Штаты. У Нью-Ёрку меў невялікую мэханічную мастроўню, у якой зарабляў на жыцьцё, браў удзел у беларускім грамадзкім жыцьці. у 1958-59 гадох быў старшынём ньюёркскага адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Як аматар-фатограф, зрабіў колькі ўдалых фота-сэрыяў з жыцьця беларускае грамады Нью-Ёрку: беларускай школы, удзелу Беларусаў у міжнародным выстаўцы ў 1964 годзе: рабіў насьценную фота-газэту; у сваёй фота-лябараторыі зрабіў зь фільму, падараванага сп. А. Еўцу мітрапалітам Аляксандрам Пінскім, адбіткі царкоўных напеваў, якімі карыстаюцца ў беларускіх праваслаўных цэрквах на эміграцыі.

Нябожчык перажыў два ўдары сэрца. Пасьля першага давялося рабіць апэрацыю.

Паховіны адбыліся ў мясцовай каталіцкай царкве. На пахаваньні былі Беларусы й Амэрыканцы, ягоныя сябры й знаёмыя. На памінальнай бяседзе разьвітальнае слова сказаў паангельску сп. Уладзімер Курыла, а на магілках пабеларуску прамаўляў др. Лявон Русэвіч. На пахаваньні быў др. Б. Грабінскі з жонкай, а др. Б. Рагуля з Канады выказаў тэлефанічна спачуваньні жонцы Эвэліне, да якое зь Лёндану з Ангельшчыны прыбыла сваячка.

Пахаваны сьв. пам. Язэп Пазьняк на могільніку ў Галідэй-Лэйк-Эстэйтс у штаце Флярыда, дзе жыў ад 1972 году.

## СЬВ. ПАМ. КАСТУСЬ СТАНКЕВІЧ



Сьв. пам. Кастусь Станкевіч нарадзіўся ў 1925 годзе ў мястэчку Турэц Карэліцкага раёну ў сям'і селяніна. Бацькі ўсімі сіламі стараліся даць здольнаму хлапчуку адукацыю, але здабыць поўную асьвету перашкодзілі ваенныя падзеі, а ў 1943 г. Кастуся вывезьлі на працу ў Нямеччыну як «остарбайтэра».

Канец вайны застаў яго ў Баварыі, дзе ён жыў пэўны час у ДП-лягеры ў Легендорфе. У 1946 г. ў Рэгенсбургу Кастусь спаткаў сваю нарачоную Эмілію, зь якою і ажаніўся ў наступным годзе. У 1949 г. прыехаў у Аўстралію, у г. Адэляйду, дзе далучыўся да беларускае грамады, што была ў стадыі арганізацыі.

Працаваў па розных фірмах звычайным рабочым. Але ўвесь час мроіў здабыць спэцыяльнасьць. Пайшоў у школу радыё- і тэлемэханікі. Спачатку бязь веданьня ангельскае мовы было цяжка, але моцнае жаданьне памагло перамагчы цяжкасьці, дастаў дыплём майстра радыё й тэлебачаньня. Пэўны час працаваў у фірме Філіпса, а пасьля адчыніў сваю майстэрню й магазын, дзе займаўся рамонтам ды прадаваў радыёпрыймальнікі й тэлекамэры. Быў кваліфікаваным спэцыялістам, і яго ведаў амаль кожны жыхар ягонага раёну.

Незважаючы на вялікую занятасьць, цікавіўся беларускімі справамі, грамада яго вабіла і ён ахвотна дапамагаў у арганізацыі й будове беларускае царквы. Ад 1966 г. займаў розныя пасады ў парафіяльнай радзе: быў скарбнікам і сябрам рады, а ў 1974 г. — старшынём. На гэтым становішчы прабыў 14 гадоў. Зь ягонае ініцыятывы і пад ягоным непасрэдным кіраўніцтвам пабудавалася прыцаркоўная заля, якая цяпер служыць цэнтрам беларускай грамады. Таксама паводля ягонай канструкцыі і пры асабістым удзеле былі пабудаваны чатыры дадатковыя купалы, што так упрыгожваюць вонкавы выгляд нашай царквы.

Нябожчык быў аматарам фатаграфіі й выдатным мастаком. Ён намаляваў надзвычайныя партрэты Янкі Купалы й Якуба Коласа, што красуюцца сёньня на сьценах нашай залі. Пакойны заўсёды ў крытычным мамэньце быў гатовы дапамагчы. Так было ў 1984 г., калі ён на 4-й Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі ў Мэльбурне дабраахвотна ўзяў на сябе абавязкі старшыні Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі, прабыўшы на гэтым становішчы роўна год. На пачатку 1987 г. ўзяў на сябе функцыю псаломшчыка. А неўзабаве пасьля гэтага, калі стаўся старшынём парафіяльнага рады, захварэў на сэрца («грудная жаба»). Меў цяжкую апэрацыю, але й далей працаваў на карысьць царквы, прабыўшы на становішчы старшыні парафіяльнай рады да канца 1988 году.

У жніўні 1989 г. на перавыбарчым сходзе Аб'еднаньня ў Паўдзённай Аўстраліі ўзяў дадатковую працу сакратара Аб'еднаньня. На гэтым становішчы сьмерць і забрала яго ад нас 27 лістапада 1989 году. Нябожчык да апошняй хвіліны свайго жыцьця свае сілы, свой вольны час, сваю здольнасьць аддаваў на царкоўна-грамадзкія справы. Як беларускі патрыёт, пакойны заслужыў на вечную пашану сярод парафіянаў і сяброў нашай грамады.

Дык вечная памяць Табе, дарагі сябра Кастусь, спачывай пад Курганам Гэрояў. Хай будзе пухам Табе Аўстралійская зямелька.

**Янка Ролсан**

### ТЭЛЕГРАМА ЕЛЕНЕ БОНЭР

На наступны дзень пасьля сьмерці акадэміка Андрэя Сахарава Беларуска-Амэрыканскі Камітэт Абароны Вязьняў Сумленьня ў Беларусі, высака цэнячы праваабаронную дзейнасьць нябожчыка, удзячны за ягоную эфэктыўную абарону шматгадовага беларускага вязьня сумленьня Міхала Кукабакі, выслаў спачувальную тэлеграму жонцы памерлага Елене Бонэр, выказваючы глыбокія спачуваньні ёй з прычыны страты дарагога мужа і вялікага дабразычлівага чалавека.

### АБВЕСТКА

Вернікі БАПЦ, а таксама ўсе іншыя суродзічы, што знаходзяцца ў Флярыдзе, запрашаюцца наведаць царкву праваслаўнай місіі, якая належыць да юрысдыкцыі БАПЦ Арх. Мікалая і якая знаходзіцца ў Нэйплс. Кіраўнік місіі — а. Аляксандар Радэнковіч. Адрас місіі: 620 94th Avenue, North Naples, Fla 33963; tel.: (813) 597-5111.

## СЬВ. † ПАМ. МЭВІС КАЛБАСА

**30.V.1936-16.XII.1989**

Зь вялікім смуткам паведамляецца аб сьмерці сьв. пам. Мэвіс Калбаса, жонкі й няўтомнай супрацоўніцы сямейнага жыцьця Янкі Калбасы з Брадфарду ў Ангельшчыне. Нябожчыца цяжка хварэла на працягу дзесяцёх гадоў, апошнія два гады правяла больш у шпіталі, чымся ў роднай хаце. Сьв. пам. Мэвіс памерла ў шпіталі 16 сьнежня 1989 г., пакінуўшы ў вялікім смутку мужа Янку, трох сыноў, Пятруся, Міхася й Сьцяпана, дочак Гэлену й Юльляну ды чацьвёра ўнукаў. Абрад пахаваньня выканаў 22 сьнежня мітр. прат. а. Міхаіл Гуторны ў царкве сьв. Пакрову ў Брадфардзе, куды прыбыла вялікая колькасьць сваякоў, прыяцеляў і знаёмых Беларусаў, Ангельцаў, Украінцаў. Айцец Міхаіл сказаў прачулую казань. Пахаваная нябожчыца на могілках Ундэркліф Сэмэтэры.

Спачывай у роднай зямельцы, дарагая Мэвіс, асвабоджаная ад болю жахлівай хваробы. Сьпі, Дарагая, пад апекай Госпада Бога. ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ.

**Сям'я**

### ПАДЗЯКА

Беларускім грамадзкім арганізацыям, дабрадзейным інстытуцыям, суродзічам, сябром і людзям добрай волі за выказаныя лістоўна і вусна словы глыбокай спагады ў страце жонкі, любімай маці, бабулькі, сьветлай памяці Мэвіс, усім шчырая й сардэчная падзяка. Асаблівы дзякуй мітр. прат. а. Міхаілу Гуторнаму, харыстам і парафіяльнай радзе царквы сьв. Пакрову УАПЦ у Брадфардзе ды пляменьніцы Галіне за глыбока спачувальную тэлеграму з роднай Беларусі. Шчыры Вам дзякуй!

**Янка Калбаса і сямейка**

## СЬВ. † ПАМ. КАСТУСЬ СТАНКЕВІЧ

**1.X.1925-27.XI.1989**

Адыйшоў на вечны супакой, пакінуўшы ў смутку жонку Эмілію, дачку Хрысьціну, сына Міхася і шасьцёра ўнукаў.

Нябожчык нарадзіўся ў мястэчку Турэц Карэліцкага раёну, меў амаль сярэднюю асьвету, браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім і царкоўным жыцьці.

Сьмерць Кастуся Станкевіча — незаменная страта для царквы, парафіі й беларускай грамады ў Адэляйдзе. Абрад паховін выканаў а. Міхась, нябожчык пахаваны на магільніку Чэнтальгайм у Адэляйдзе.

З глыбіні сэрца выказваем наша найшчырэйшае спачуваньне асірацелай сям'і нябожчыка: жонцы, дзецям і ўнукам.

Вечная табе памяць, дарагі Кастусь, хай будзе Табе пухам Аўстралійская зямелька. Спачывай там, дзе ўсе праведныя спачываюць.

**Парафія Сьв. Ап. Пятра і Паўла**
**Беларускае Аб'еднаньне у Паўдзённай Аўстраліі**

# СЬВ. ПАМ. СОФІЯ ДУБЯГА



3-га сьнежня 1989 г. адыйшла ў лепшы сьвет сьв. пам. Софія Дубяга, з дому Семянковіч, пакінуўшы ў глыбокім жалі сына Алега з жонкай Жэняй, двух унукаў, Юльляна й Тамаша, і ладную грамаду прыяцеляў і сувернікаў царквы Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ у Гайленд-Парку, штат Нью-Джэрзы.

Нябожчыца нарадзілася 11.XI.1903 г. ў мястэчку Куранец каля Вялейкі ў сям'і мешчаніна-земляроба. Пачатковую асьвету здабыла ў родным Куранцы, а пасьля вучылася ў вялейскай няпоўна-сярэдняй школе. Навуку перапынілі рэвалюцыйныя падзеі. У канцы 20-х гадоў выйшла замуж за сына заможных бацькоў, уласьніка фальварку Асінаўка, Нікодама Дубягу.

Усё сваё жыцьцё нябожчыца старалася працаваць для дабра свайго народу. Прыкладам, у 1942-43 гг. яна дзейна дапамагала свайму дзеверу, прафэсійнаму настаўніку Юльляну Дубягу весьці працу ў адчыненай ім школе. Школа зачынілася толькі пасьля таго, калі сталінскія партызаны пачалі гразіць ім абаім сьмерцяй. Пазьней, ужо на выгнаньні ў Нямеччыне, працавала ўва ўцякацкім лягеры Алендорф у адчыненай інж. Чаславам Ханяўкам беларускай школе, а перад самым выездам у Амэрыку — у Беларускай пачаткавай школе ў ДП-лягеры ў Рознегайме.

У ЗША нябожчыца была заўсёды дзейнай у царкоўным жыцьці, клапацілася аб зборы ахвяраў на дапамогу епіскапату БАПЦ, аб упрыгожаньні царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку, у якой была аднэй зь першых старшынёй сястрыцтва.

Паховіны адбыліся 5 сьнежня. Абрад адпяваньня выканаў а. прат. Васіль Андрэюк. Пахаваная нябожчыца на могільніку ў Іст-Бранcьвіку побач свайго мужа сьв. пам. Нікодама.

На памінальным абедзе прамаўлялі а. Васіль, сп. В. Стома як адзін з найстарэйшых знаёмых памерлае, сп. М. Тулейка, старшыня мясцовага адзьдзелу БАЗА, сп. В. Русак ад парафіяльнае рады і сп. П. Кажура як даўны прыяцель сям'і.

Сьпі, Дарагая Сястра! Няхай Табе сьняцца родныя Куранец і Асінаўка.

**В. С.**

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

Калі ў каго ёсьць лішнія беларускія кнігі, выдадзеныя на эміграцыі, у тым ліку й рататарныя выданьні, перашлеце іх, калі ласка, у Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва на ніжэй пададзены адрас. Кнігі гэтыя патрэбныя для Беларусі, дзе на іх вялікі попыт.

Пасылайце таксама самі беларускія эміграцыйныя выданьні сваякам і знаёмым на Беларусь, дзе расьце зацікаўленьне жыцьцём эміграцыі.

BINiM
230 Springfield Ave.
Rutherford, N.J. 07070
U.S.A.

## М. ШАГАЛ ВІЦЕБСКАГА ПЭРЫЯДУ

Раньнія гады творчасьці Маркі Шагала, 1907-1922, багата адлюстраваныя ў дарагім выданьні кнігі Аляксандра Каменскага, перакладзеным у ангельскую мову, што выйшла ў выдавецтве Рыццолі (376 бб., цана 100 ам. дал.).

### РЭДАКЦЫЙНЫЯ ПАПРАЎКІ

**Лявальскі ўнівэрсытэт** знаходзіцца ў Квэбэку (Канада), а ня ў Манрэалі, як рэдакцыя падала ў № 364 («Пра беларускую культуру»).

**Правільны загаловак кніжкі Л. Л. Коласава** гэткі: «Филателия о Белоруссии». І выйшла кніга ў 1984 г., а ня ў 1988, як рэдакцыя падала ў № 364 («Беларускі філятэлістычны стэнд»).

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана беспасярэдня ў рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| З. і В. Кіпель | ам.д. 200 |
| Я. Сянькевіч | 154 |
| А. Кіпель | 150 |
| А. Лук'янчык | 100 |
| М. Кіпель | 100 |
| А. Гурэвіч | 100 |
| В. Мшар | 100 |
| Сапега | 100 |
| Н. К. | 50 |
| Я. Ж. | 50 |
| А. Хрэноўскі | 50 |
| А. Кажан | 50 |
| А. Касьцюк | 50 |
| В. Балтрушэвіч | 50 |
| М. Дубоўскі | 50 |
| В. і М. Махнач | 50 |
| В. Пашкевіч | 50 |
| Ю. Андрусышына | 50 |
| Ф. Сак | 50 |
| М. Латушкін | 40 |
| Н. К. | 40 |
| Я. Каханоўская | 30 |
| У. Глыбінны | 30 |
| В. Ільшчук | 30 |
| В. Казлоўскі | 30 |
| М. Каленік | 30 |
| Царква Жыр. Божай Маці ў Гайленд-Парку | 25 |
| Кансысторыя БАПЦ | 25 |
| Л. Шурак | 25 |
| Т. Бэрд | 25 |
| К. Муха | 25 |
| Ю. Касьцюкевіч | 25 |
| С. Шабовіч | 25 |
| М. Наўмовіч | 20 |
| В. Кабушка | 20 |
| Л. Кавалёў | 20 |
| М. Смаршчок | 20 |
| К. Калоша | 20 |
| а. А. Радэнковіч | 20 |
| А. Шастак | 20 |
| Я. Шымчык | 20 |
| Я. Крэсла | 20 |
| Я. Ролсан | 18 |
| Я. Юхнавец | 15 |
| Я. Калбаса | 10 |
| К. Барысавец | 10 |
| К. Верабей | 5 |
| Б. Грабінскі (заміж кветак на магілу с.п. Я. Пазьняка) | 50 |
| М. Латушкін (заміж кветак на магілу с.п. В. Пунтуса) | 20 |
| Адзьдзел БАЗА ў Нью-Ёрку (заміж кветак на магілу с.п. Н. Орсы) | 240 |
| Усяго | 2579 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Б. Даніловіч | 50 |
| В. Стома | 50 |
| Р. Войтэнка | 40 |
| В. Балтрушэвіч | 30 |
| Параф. БАПЦ ў Гайленд-Парку | 25 |
| Кансысторыя БАПЦ | 25 |
| Сэктар Рады БНР у Н.-Дж. | 25 |
| Адзьдз. БАЗА ў Н.-Дж. | 25 |
| С. Янкоўскі | 25 |
| Л. Стагановіч | 25 |
| У. Жарскі | 20 |
| М. Мядзейка | 20 |
| А. Шастак | 20 |
| І. Цупрык | 20 |
| М. Смаршчок | 20 |
| а. А. Яноўскі | 20 |
| Р. Галяк | 20 |
| К. Міpановіч | 10 |
| В. Дубяга | 10 |
| Я. Азарка | 10 |
| В. Ярашэвіч | 10 |

**КАНАДА**

| | |
|---|---|
| А. М. | 85 |
| М. Пашкевіч | 50 |
| А. Монід | 50 |
| Я. Чорны | 40 |
| Р. Беразоўскі | 34 |
| Я. Бурдзь | 30 |
| Э. Пітушка | 25 |
| К. Акула | 21 |
| У. Гуцько | 20 |
| Б. Кірка | 9 |
| Усяго | 864 |

**АЎСТРАЛІЯ**

*Праз нашага прадстаўніка сп. Г. Шайпака ў Мэльбурне:*

| | |
|---|---|
| М. Скабей | аўстр. д. 80 |
| Г. Шайпак | 50 |
| Сп-тва Кукель | 40 |
| П. Гуз | 30 |
| М. Нікан | 50 |
| З. Кадняк | 35 |
| Ф. Лашук | 40 |
| Я. Яшчэнка | 30 |
| Я. Валеньцёнак | 30 |
| М. Шэко | 35 |
| А. Груша | 50 |
| Я. Стасевіч | 30 |
| Л. Яцкевіч | 30 |
| М. Швэд | 30 |
| У. Сідлярэвіч | 40 |
| А. Насяра | 30 |
| В. Кароляк | 30 |
| Н. Сікорская | 30 |
| С. Каранеўскі | 45 |
| Я. Ясьвіловіч | 15 |
| За паасобныя нумары | 55 |
| Усяго | 805 |
| | ам.д. 627,33 |
| М. Нікан | аўстр. д. 50 |

*Праз нашага прадстаўніка сп-ню М. Мароз у Зах. Аўстраліі:*

| | |
|---|---|
| М. Мароз | аўстр. д. 20 |
| А. Мароз малодшы | 10 |
| Е. Дамброўскі | 20 |
| З. Ёлаб | 5 |
| М. Раецкі | 20 |
| В. Раецкі | 20 |
| А. К. Чабатар | 20 |
| А. Ніжнік | 25 |
| А. Бразоўскі | 50 |
| В. Л. | 20 |
| Бел. Аб'ядн. У Зах. Аўстр. | 155 |
| Усяго | 350 |
| | ам. д. 271,60 |

**СТУДЗЕНЬ — ПЕРШЫ МЕСЯЦ ГОДУ І ДАЕ ЁН НАМ НАГОДУ ЗА ГАЗЭТУ ЗАПЛАЦІЦЬ, КАБ СПАКОЙНА ЎВЕСЬ ГОД ЖЫЦЬ.**

УВАГА!!! УВАГА!!!

*ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

Асобы, якія атрымваюць газэту «Беларус» ад сп. Б. Даніловіча, павінны перасылаць яму-ж і належнасьць за газэту. Чэк трэба выпісваць на ягонае прозьвішча ды перасылаць на адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, NJ 08901

**Адміністрацыя**

## БЕЛАРУСАМ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Прыхаджане й прыяцелі парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку, Н.-Дж., склалі ахвяры на дапамогу суродзічам у Беласточчыне:

| | |
|---|---|
| Азарка Ю. | ам.д. 20 |
| Тулейка М. | 20 |
| Кажура П. | 30 |
| Даніловіч Б. | 20 |
| Гутырчык С. | 20 |
| Стома В. | 10 |
| Рагуля М. | 20 |
| Станкевіч Р. | 20 |
| Машанскі В. | 20 |
| Запруднік Я. | 40 |
| Стагановіч Л. | 100 |
| а. Андраюк В. | 10 |
| Сапежынскі Я. | 10 |
| Дубяга А. | 20 |
| Субота А. | 20 |
| Усяго | 390 |

### На дапамогу беластаччанам

У 1989 годзе на дапамогу беластаччанам склалі ахвяры наступныя асобы:

| | |
|---|---|
| А. Рамана | ам.д. 40 |
| Р. Станкевіч | 20 |
| Ніна Рагуля | 30 |
| М. Грэбень | 30 |
| Л. Норык | 25 |
| А. Шукелойць | 25 |
| Усяго | 170 |

Усім ахвярадаўцам шчыры дзякуй!

**А. Рамана**
**В. Бартуль**
**Ю. Андрусышына**

*Ахвяры ад вернікаў і гасьцей беларускай праваслаўнай парафіі Сьв. Юр'я ў Чыкага:*

| | |
|---|---|
| а. Кастусь Бандарук | 20 |
| Яканюк Уладзімір | 50 |
| Шышка Аляксандар | 50 |
| Міянчук Уладзімір | 20 |
| Каленік Міхась | 20 |
| Міхо Ян | 20 |
| Макарэвіч Яўген | 20 |
| Карніловіч Сяргей | 42 |
| Яраховіч Эва | 20 |
| Шэчук С. | 5 |
| Хвіст К. | 5 |
| Пуп К. | 18 |
| Марчук Марыя | 10 |
| Усяго | 300 |

*Ахвяры ад Беларусаў Канады:*

| | |
|---|---|
| Шаршуновіч Кастусь | кан.д. 150 |
| Палескі Аляксандр | 110 |
| Мазурук Юрка | 100 |
| Паплаўскі Лявон | 50 |
| Нікановіч Аляксандр | 40 |
| Усяго | 450 |

Усім ахвяравальнікам шчырая падзяка!

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

Заміж кветак на магілу сп. Ксені Тумаш:

| | |
|---|---|
| Сям'я Беленісаў | ам.д. 50 |
| Сям'я Панушэвічаў | 50 |
| Ахвяры: | |
| А. і Л. Беленісы | 200 |
| А. Адамовіч | 100 |
| Б. Рагуля | 85 |
| А. Слонімскі | 70 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| С. Нарушэвіч | 100 |
| В. Рамук | 50 |
| Усяго | 655 |

## КАБ НЕ ПАКРАЛІ ДАПАМОГУ

Наведнікі зь Беларусі перасьцерагаюць, што калі хто-небудзь будзе пасылаць дапамогу на Беларусь ахвярам чарнобыльскае катастрофы, каб шукалі запэўненьня, што дапамога гэтая трапіць у рукі тых, каму яна пасылаецца, а не камандна-бюракратычнага апарату. «Без нагляду, — сказала адна жанчына-наведніца, — усё пакрадуць».